ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

ВЫДАЕЦЦА З 1932 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 7 (2638) • Пятніца, 16 лютага 1973 года • Цана 8 кап.



Ушаччына!
Злыя вятры
Ніколі цябе не мінулі.
Слязу успамінаў сатры,
Салдатаў лясных матуля!

Ты рвалася з тхла да святла,
Палегла сыноў нямала:
Зялёнай калыскай была —
Пеклам блакадным стала.

Сыны не чакалі спагад,
Трывалі,
Стаялі трывала.
Жалезная воля брыгад
Смяротны ланцуг парвала.

Аглухлы ад кананад,
Пот скрывянелы ўцерці
Выйшаў лясны салдат
З блакаднага пекла
ў бяссмерце...

Рыгор БАРАДУЛІН.

Праз некаторы час гэтая фігура героя-партызана, адлітая з металу, узнімецца недалёка ад вёсак Паперына і Новае Сяло, там, дзе ў гады Айчыннай вайны прарвалі кальцо варожай блакады партызанскія брыгады Ушацкай зоны.

Пра работу над мемарыяльным комплексам, прысвечаным слаўнаму подзвігу беларускіх партызан, чытайце на стар. 10.

## У НУМАРЫ ЧЫТАЙЦЕ:

СПРАВА, ЯКОЙ ТЫ СЛУЖЫШ

# ЖЫВАЯ ВАДА

С. БАРАДОЎСКІ, А. ШАБАЛІН



ЦЯЖКАЕ ВЯДРО на сталёвым тросе лёгка слізгае ўздоўж заплесневелага бетону студні. Глухі ўсплёск, і зноў круціцца, парыпвае калаўрот. Трос шчыльнымі віткамі кладзецца на барабан.

Але вось, нарэшце, паказваецца край вядра. Карычневыя ад загару рукі падхопліваюць яго, ставяць на край зруба.

Скотнікі прагна п'юць, задаволена крэкчуць.

Адзін з іх падыходзіць другі раз.

— Да вечара запасціся хочаш? — жартуюць таварышы.

— Жыць доўга хачу. Гэта ж жывая вада!..

Жывая вада... Вось так сказала паўгадзіны назад Яўгенія Андрэеўна Мелісевіч. Праўда, яна крыху іншы, больш глыбокі сэнс уклала ў гэтыя словы. Маўляў, усё тут сваё, роднае, кожная сцяжынка сходжана, кожнае дрэўца знаёмае, вада і тая асаблівая, ну, проста жывая вада, пап'еш — жыццё падоўжыш...

І мы таксама, успомніўшы гэтыя словы, яшчэ раз падыходзім да студні. А ў памяці зноў паўстае ўсё пачутае ад нашай нядаўняй гасціннай гаспадыні.

ЯК ПЕРАД навальніцай, неспакойна шумелі дрэвы над шырокай і доўгай градой з трускалкамі. Сонца, якое толькі што ўзнялося, схавалася ў густых воблаках, і халодная раса яшчэ апякала рукі і калені. Жэня разагнулася на хвілінку, скасавурылася на вокны панскага дома — здаецца, нікога, — затым зноў схілілася над градкай, рассоўваючы рукамі лісце...

Два дні назад каля іх дома спынілася брычка пана Чарнецкага, тутэйшага памешчыка, і ён сам пастукаў пугаю ў шыбу парабкавай хаты. Бацька таропка выбег на ганак.

— Прысылай дачку ў сад. Заўтра.

Бацька паспрабаваў растлумачыць, што дачцы толькі адзінаццаць і рана яшчэ ёй працаваць. Але Чарнецкі ўжо цяжка ўзлазіў на брычку...

...Да абеду кошык трэці раз напоўніўся да краёў. За думкамі аб доме, аб няхітрых сваіх забавах Жэня і не заўважыла, як ззаду падышла сама гаспадыня. Пані Чарнецкая доўга стаяла, назіраючы за спрытнымі рухамі дзяўчынкі, затым сказала:

— Бачу, ты вельмі старанная дзяўчынка...

Узяла з кошыка жменю ягад, пакачала на далоні:

— Пасля абеду прыходзь у дом, да мяне. Пакаёўкай будзеш...

Пацяклі, бы вада ў павольным ручаі, дні за днямі. Бягом да павеці па дровы, бягом да калодзежа па ваду... Бягом, бягом...

Аднойчы, калі Жэня ўжо крыху асвойталася, — гаспадыня ўсё радзей спынялася за яе спіною, каб паглядзець, як дзяўчынка працуе, — падышоў стары ў пашматанай, да каленяў, саматканай кашулі, басанож, з торбаю цераз плячо. Замармытаў нешта, працягваючы руку. Жэня хутка збегала на кухню, адрэзала лусту хлеба, вынесла. Стары доўга кланяўся, потым пайшоў. Жэня павярнулася, каб пайсці ў дом, і ўбачыла, што на парозе стаіць гаспадыня. Губы яе былі злосна сцяты.

— Прынясеш з дому столькі хлеба, колькі зараз дала. Заўтра ж!

Раніцою Жэня прынесла такі ж, нават крыху большы, кавалак хлеба, дамашняга, цяжкага, ліпучага. Пані Чарнецкая адкусіла кавалачак, усміхнулася:

— Смачна...

І не ведае Жэня, як гэта атрымалася, але не вытрымала і раптам сказала, як часта гаварыў за абедам тата:

— Смачны, таму што зароблены.

Пані Чарнецкая моўчкі ўдарыла Жэню па твары.

Нічога не бачачы перад сабою, дзяўчынка пайшла, спынілася ля студні, пачала прагна піць халодную ваду. І з кожным глытком станавілася лягчэй, нібы гэтая вада тушыла ў грудзях агонь незаслужанай крыўды. Затым выцерла рукавом слёзы і пайшла са двара, як учора той стары-жабрак. У панскі дом ужо не вярнулася. А назаўтра прыйшоў панскі загад адправіць дачку ў даяркі...

— Было гэта ў дваццаць дзевятым годзе, — закончыла свой расказ аб тых далёкіх днях Яўгенія Андрэеўна...

МЫ СЯДЗІМ на памосце перад кароўнікам. Побач блішчаць на сонейку чысценькія, падрыхтаваныя да дзённай дойкі бітоны. Напагатове і даільныя апараты.

— Бачыце, — паказвае Яўгенія Андрэеўна кароўнік. — Адна частка новая, нядаўна пабудавалі. А вось гэтая і ёсць спадчына пана Чарнецкага. Незайздросная, канечне, але пакуль яшчэ служыць. Будаўнікі прыглядаюцца ўжо. Відаць, неўзабаве бурыць будуць...

Сцены панскай «спадчыны» яшчэ моцныя. Добра папрацавалі мужыкі-майстравыя пад пільным вокам панскага аканома Трускаляўскага. Гады прайшлі, пра паноў забылі, а сцены стаяць, як напамінак аб далёкіх і невясёлых днях. Менавіта сюды, у гэты кароўнік, прыйшла Жэня на другі дзень пасля сутычкі з пані Чарнецкай.

— Часта прыходзіў пан Чарнецкі ў кароўнік. Уваліцца нечакана, у велізарным кажуху, сядзе на салому і вачэй не зводзіць, — расказвае Яўгенія Андрэеўна. — Спіна разламваецца, а не разгінайся. Пяройдзеш да другой каровы, і ён устае, бліжэй сядае. І ўсё моўчкі, глядзіць і міргае. Так і прасядзіць усю дойку, як груган.

Расказвае Яўгенія Андрэеўна, і ціхая ўсмешка блукае на яе вуснах. Нібыта не пра сябе расказвае, пра другога чалавека. Нібы не сама перажыла, а прачытала аб усім гэтым. Змылі і сцерлі гады той боль і тыя крыўды.

У саракавым годзе накіравалі Яўгенію Андрэеўну ў сельскагаспадарчую школу. Не давучылася. Вярнулася дамоў, калі гарэлі ўжо на Пружаншчыне вёскі.

Вярнуліся і паны ў сваё старое гняздо. Запомнілася сялянам іх вяртанне...

— Год, і два, і тры, — загінае пальцы Яўгенія Андрэеўна.

Толькі палец загнуць лягчэй, чым той год пражыць.

ПАЧЫНАЕЦЦА ДОЙКА. У кароўніку мільгацяць халаты даярак. І вось ужо пстрыкаюць даільныя апараты. Над каровамі шыльдачкі: «Астра», «Вавёрка», «Звязда»... І напісаныя крэйдай лічбы. Гэта дзённы надой.

Збоку, у невялічкай клетцы, чырвонае, з белай зорачкай на ілбе, цялё. Вось такога ж гадавала Яўгенія Андрэеўна колісь, у сорак пятым. Таксама чырвонае было і з белай плямкай на ілбе. Нарадзілася слабое, вачэй расплюшчыць сіл не мела. Сабраліся даяркі вакол, шкадуюць.

— Прырэзаць трэба, — сказала адна. — Усё роўна не выдужыць. Што яму мучыцца...

— Выратуем, — запярэчыла Яўгенія Андрэеўна. — У нас цяпер жывёлу па пальцах можна пералічыць.

Пасля вайны сабралі ў вёсцы каля дзесятка свіней, ды курэй сорак, ды кароў пяць-шэсць, вось і ўся ферма.

Падышоў тады дырэктар саўгаса, схіліўся над кволым цялём, прыслухаўся да гамонкі жанчын, а пасля крануў за плячо Яўгенію Андрэеўну:

— Лічыш — можна выратаваць?

— Паспрабую, — адказала.

— Вельмі прашу, — сказаў дырэктар, — выратуеш, вялікае дзякуй скажам.

Выратавала.

МНОГА з тае пары сплыло вады, ох, многа... Усяго было — і бяскорміцы, і так неладоў. Здаецца, кінуў бы ўсё і пабег, куды вочы глядзяць. Але любіла паўтараць Яўгенія Андрэеўна, што жыццё, яно не з адных руж. Ну, а хочаш руж, дык не бойся пакалоць рук...

Рукі ў Яўгеніі Андрэеўны маленькія, суханькія, з вузлаватымі моцнымі пальцамі. Гэта ж у апошнія гады машынамі сталі даіць, а раней, дык адно — рукамі.

Слава да Яўгеніі Андрэеўны не прыйшла нечакана. Апошніх гадоў дзесяць - дванаццаць гучала яе імя на раённых і абласных нарадах жывёлаводаў. Мелісевіч лепшая, Мелісевіч перадавая, Мелісевіч б'е рэкорды... Мясцовыя журналісты даўно пералічылі малако, якое яна надаіла, у тоны, падлічылі, колькі чыгуначных цыстэрнаў спатрэбілася б, каб перавезці яго. Многа, цэлыя паязды...

І толькі Яўгенію Андрэеўну ніколькі, здаецца, гэта не турбавала. А калі прыязджалі да яе дэлегацыі з іншых гаспадарак па вопыт, хітра ўсміхалася і на шматлікія пытанні адказвала адной фразай: «Вы, даражэнькія, любіце скацінку, дый усё».

Не будзе ж яна кожнаму расказваць, як у час ацёлаў, бывала, заставалася начаваць на ферме, як пра кожную кароўку сваёй групы ведала ўсё, што толькі можна ведаць пра жывёлу — і які апетыт, і з якога боку падысці, якое слова сказаць.

І яшчэ...

— Я ў гаспадарку прыехала працаваць у пяцьдзесят шостым, — успамінае галоўны заатэхнік саўгаса Алена Канстанцінаўна Хама. — Самі ведаеце, які пасля студэнцкай лаўкі спецыяліст. Гора зялёнае. Я і разгубілася зусім. Дальбог, не ведаю, што і было б, каб не Яўгенія Андрэеўна. Зайшла неяк на ферму, даяркі як быццам і не заўважаюць. А на тварах — ну, які ты, маўляў, спецыяліст, ты спярша падаі, тады ў начальнікі ідзі. А Яўгенія Андрэеўна — проста як маці. Ласкава так усё распытала і неўпрыкметкі пачала ў мяне парады прасіць — як лепш першацёлак раздойваць. Пасля зразумела я, што яна пра ўсё гэта лепш за мяне ведае, а пыталася, каб падбадзёрыць. Ніколі не забуду яе дапамогі. Залатой душы чалавек...

Чатыры гады таму за высокія паказчыкі (ад кожнай каровы сваёй групы Мелісевіч надаіла за год больш за чатыры з паловай тысячы літраў малака) ёй было прысвоена высокае званне Героя Сацыялістычнай Працы.

А праз год здарылася з Яўгеніяй Андрэеўнай бяда — яна цяжка захварэла. Выйшла на пенсію.

Калі прыехалі мы ў гаспадарку, зайшлі ў кантору і спыталі пра Мелісевіч, нехта з прысутных здзіўлена зірнуў:

— З газеты? Дык жа яна на пенсіі ўжо, — і ўсміхнуўся, — вам жа паказчыкі патрэбны, а якія ў пенсіянеркі паказчыкі?

Трэба было чуць, як накінуліся прысутныя на гэтага чалавека.

— Не слухайце яго. Ну і што, калі на пенсіі. Ды яна падменнай выходзіць, калі трэба. Не лічыцца са здароўем. І потым, яна ў нас сапраўдны грамадскі дзеяч — людзі да яе цягнуцца, як да агеньчыка.

Расказалі нам, што Яўгенія Андрэеўна — член парткома, член жаночага савета, член рабачкома...

Усе ў саўгасе ведаюць: слова Андрэеўны — аўтарытэтнае, абы што гаварыць яна не будзе.

Вось і апошні выпадак. Пакрыўдзілі неяк даярку Марыю Аляксеенка з аплатай. Нешта наблыталі, не так налічылі. Пайшла жанчына да начальства. Можа яно было занята ў гэты момант, а толькі вярнулася даярка з пустымі рукамі. Да каго ж пайсці яшчэ — да Андрэеўны, вядома. Выслухала тая ўважліва, паглядзела паперы і... Адным словам хапіла пасля і бухгалтару, і дырэктару. Выплацілі Аляксеенка ўсё спаўна.

Расказваў нам пра ўсё гэта галоўны аграном гаспадаркі Іван Дзянісавіч Крывашэй. Расказваў, і ў голасе яго гучаў гонар, маўляў, вунь якія людзі ў нас. А нам падумалася — бывае ж, часам, пайшоў чалавек на пенсію, і ўсё пайшло з ім, нават не ўспомняць пра яго. А мо ад самога чалавека гэта залежыць? Ад яго жыццёвага зараду, грамадзянскай свядомасці? Так відаць...

МЫ ІДЗЕМ шырокай вуліцай пасёлка. Сярод новых цагляных дамоў, гаспадарчых пабудоў не-не, ды і сустрэнецца пачарнелая ад часу і дажджоў сцяна з выбітымі цаглінамі, з паўкруглымі вокнамі — рэшткі былых панскіх бастыёнаў. Недарэчна выглядаюць яны побач з шырокімі, поўнымі сонца вокнамі новых будынкаў.

Развітваемся са скотнікамі і ідзем па дарозе міма дрэў. Старых дрэў, што некалі хіліліся над доўгай градой з панскімі трускалкамі. Азіраемся яшчэ раз на студню, з якой піла маленькая дзяўчынка Жэня...

Б'е недзе глыбока з-пад зямлі крынічка. Не год і не два — сотні гадоў. І нічым яе не сцішыць, як не сцішыць не зменшыць любві да роднай зямлі ў гэтых людзей — працавітых і добрых.

Саўгас «Белавусаўшчына»,
Пружанскі раён.

## КОНКУРСЫ, АГЛЯДЫ

Праходзіць рэспубліканскі агляд творчасці маладых кампазітараў, аб'яўлены ЦК ЛКСМБ, Міністэрствам культуры БССР, Саюзам кампазітараў БССР. У ім удзельнічаюць кампазітары-прафесіяналы. Прымаюцца вакальныя творы (харавыя і сольныя), камерна-інструментальныя, вакальна-сімфанічныя і творы для аркестра (працягласць гучання якіх — не больш дзесяці мінут), напісаныя ў 1971—73 гг.

Агляд працягнецца да 1 красавіка г. г.

У журы агляду — народны артыст СССР Р. Шырма (старшыня), сакратар ЦК ЛКСМБ Г. Анціпаў, народныя артысты БССР А. Багатыроў і Ул. Алоўнікаў, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР П. Падкавыраў і іншыя.

●

ЦК ЛКСМ Беларусі, Міністэрства культуры БССР, Дзяржаўны камітэт Савета Міністраў БССР па тэлебачанню і радыёвяшчанню, праўленне Саюза кампазітараў БССР праводзяць РЭСПУБЛІКАНСКІ КОНКУРС МАЛАДЫХ ВЫКАНАЎЦАЎ.

Да ўдзелу ў конкурсе запрашаюцца прафесійныя спевакі, навучэнцы сярэдніх і вышэйшых музычных навучальных устаноў (узрост не больш 28 гадоў).

Кожны ўдзельнік павінен мець у сваім рэпертуары тры песні: аб партыі, Радзіме, камсамоле, песню беларускага кампазітара, напісаную ў 1972—73 гг. і песню па выбару.

Другі тур маладых выканаўцаў адбудзецца ў Мінску, у сакавіку 1973 года. Пераможцам будуць уручаны дыпломы і прызы дзяржаўных і грамадскіх арганізацый Беларусі.

Лаўрэаты рэспубліканскага конкурсу будуць рэкамендаваны для ўдзелу ва Усесаюзным конкурсе маладых выканаўцаў савецкай песні, які адбудзецца ў маі 1973 года ў Мінску.

# СУТНАСЦЬ ПАЭЗІІ




ТАК, не сакрэт, вершаў цяпер пішацца вельмі многа. Іх, як кажуць, мора шырокае расплюскалася па часопісных старонках, прылаўках кнігарань... Але ж якой удзячнасцю да аўтара напаўняецца сэрца, калі сустракаеш сярод гэтага кніжнага мора запаветную, сцюдзёную і чыстую крыніцу сапраўднай паэзіі!

Менавіта такой крыніцай з'явілася для мяне новая паэтычная кніга Пімена Панчанкі «Снежань».

**Сонца маё,**
**Сосны мае,**
**Людзі мае,**
**Дазвольце хоць раз зажурыцца.**
**У чабор твой, радзіма,**
**Хачу я**
**Прытомленым тварам зарыцца.**
**Разбягаюцца рэкі мае**
**На захад, на поўнач,**
**на поўдзень.**
**Разлятаюцца дзеці мае—**
**Хутка іхняга ценю не знойдзеш,—**

гэтыя канкрэтна-выразныя, фізічна-адчувальныя радкі з верша «Я аб дзецях, аб дзецях...» вонкава як быццам спакойныя, засяроджаныя. Аднак, дачытваеш верш да канца, і бачыш, што ўвесь твор напісаны надта прачула, шчыра, тэмпераментна, пераконваешся, колькі ў гэтым спакоі схавана паэтычнай сілы, колькі ў ім глыбокіх пачуццяў і думак, вялікай чалавечнасці.

Дарэчы, сапраўдныя чалавечнасць, чуласць да чужога гора і чужой радасці, пачуццё таварыскасці і справядлівасці — гэтыя і іншыя цудоўныя якасці панчанкаўскай паэзіі ў новай кнізе выступаюць найбольш рэльефна і асязальна, акрэслены ярка, шматфарбна. Таму нездарма, звяртаючыся да людзей, у заключных радках верша «Не люблю я слова «пакарыцель»...», паэт зазначае:

**Акіян і космас вывучайце**
**З добрым сэрцам,**
**А яшчэ прашу:**
**Пакідайце і буслу, і чайцы**
**Больш вады і неба на душу.**

Тут тая ж самая думка, што і ў вершы «Я аб дзецях, аб дзецях...» — любоў да людзей, трывога за іх лёс, пачуццё адказнасці перад часам, Айчынай.

Крыху раней, у адной са сваіх папярэдніх кніг, П. Панчанка пісаў: «Лечыцца трава ад спёкі ліўнем, людзі ласкай лечацца людской». Успамінаючы гэтыя радкі, нельга не прыгадаць многіх персанажаў з ягоных ранейшых вершаў: і таго снайпера, што гадзінамі ляжаў на белым снезе і які «хацеў бы ў маленькай знічцы адразу пазбіраць усіх сяброў»; і матуль, якія перажываюць вялікую радасць, калі іх сыны-касманаўты вяртаюцца на зямлю; і палярнікаў, што «на хрыбтах начуюць леднікоў»...

Чытаеш такія вершы зборніка «Снежань», як «Іх вечныя агні», «Беларускія шрыфты», «Неспакой» і многія іншыя, і прыходзіш да высновы, што, урэшце, сапраўдная грамадзянскасць патрабуе глыбокага разумення і асэнсавання падзей, якія адбываюцца ў грамадстве. Натуральна і пранікнёна гучаць радкі:

**Хоць не парожняя дзяжа ў нас,**
**І добры хлеб наш не гарчыць,**
**І Ленін мудрую дзяржаўнасць**
**Нам даў, што трэба берагчы,**

**Ды часам думаеш да стомы:**
**Што нам нясе шалёны век?**
**А хто такія мы?**
**А што мы?**
**Якім ты станеш, чалавек?**
(«Ламае час былыя звычкі...»)

У заўсёдным клопаце за заўтрашні дзень П. Панчанка сваімі вершамі сцвярджае, што ў свеце няма месца для ідылій, сузірання, ціхага спакою. Роздум пра чалавека, жыццё, час — сутнасць ягонай паэзіі. Як быццам незнарок развіваючы і па-новаму асэнсоўваючы ранейшую думку, паэт наказвае:

**Спяшыце, людзі, новай змене**
**Любоў і дружбу перадаць.**
(«Свой лёс мы самі выбіралі...»).

Паэт напамінае, што ахова прыроды ад вынішчэння — гэта клопат пра будучыя, «лепшыя пакаленні». Бо, як вядома, не толькі для дабра існуюць «аўтаматыкі шарады і хітрай хіміі гушчар», за якімі пільна сочыць «чырвонае вока вайны».

Аднак, як бы трывожна і напружана ні пульсавала думка паэта, вершы яго заўсёды напоўнены зарадам аптымізму, моцнай верай у сілу прагрэсіўнага чалавецтва. Яскравы прыклад — той жа верш «Я аб дзецях, аб дзецях...»:

**Хлебаробы, ліцейшчыкі,**
**Творцы машын вылічальных,**
**Вам — адданасць мая,**
**І любоў,**
**І маё велічанне.**
**Соль зямлі**
**І святло вы,**
**Сумленнасць найбольшая ў свеце;**
**Толькі вы захаваеце**
**Праўду,**
**І пушчы,**
**І рэкі,**
**І святыя сцягі...**

Таму ён і выбраў сабе ў настаўнікі!

Пімен Панчанка. «Снежань». Вершы. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1972.

# ПАДАРОЖЖА Ў ЮНАЦТВА

У СВОЙ ЧАС у рэцэнзіі на кнігу В. Быкава «Трэцяя ракета» І. Навуменка адзначыў, што пісаць пра вайну — значыць не толькі маляваць чалавечыя характары, але і ствараць непаўторны вобраз часу.

Гэтыя словы поўнасцю датычаць і творчасці самога пісьменніка. Апаленыя вайной юнацкія гады і сёння хвалююць І. Навуменку. У лепшых сваіх апавяданнях пра вайну пісьменнік ставіць і рашае важныя маральна-этычныя праблемы. Творы яго зліваюцца ў адно мастацкае палатно, героі ўпэўнена ідуць па жыцці. Гэта звычайныя людзі трыццатых гадоў, яны змагаюцца і гінуць за Радзіму ў перыяд ваеннага ліхалецця, лечаць свае незагойныя раны ў пасляваенны час...

Ад апавядання да апавядання захапляе чытача не толькі добрае веданне аўтарам жыцця, але і ўменне перавесці карціны і характары ў паэтычныя вобразы, якія вабяць сваёй сапраўднай мастацкасцю. І ўжо знаёмыя раней, і новыя апавяданні арганічна ўпісваюцца ў кнігу.

Большасць з іх прасякнута той эмацыянальнасцю, лірызмам, якія ўзнікаюць на падставе перажытага аўтарам. У гутарцы «за круглым сталом» у часопісе «Вопросы литературы», дзе абмяркоўваліся праблемы малога жанру (1969 г.), І. Навуменка гаварыў, што ў апавяданнях ён ішоў ад жыццёвага факта, што «рашаючым было — добрае веданне гэтага рамантычнага пакалення, яго ідэалаў, псіхалогіі». Складаныя ўзаемаадносіны аўтара, героя і апавядальніка арганічна ўпісваюцца ў паэтыку лірычнага па свайму характару і дакументальнага па зместу апавядання. Галоўная ўвага пісьменніка канцэнтруецца на аналітычным даследаванні «дыялектыкі душы героя».

Зборнік адкрываецца апавяданнем «Семнаццатай вясной». Пачынаецца яно, як і многія апавяданні і асобныя раздзелы аповесцей аўтара, сцісльным зачынам, які набліжаецца па сваёй сэнсавай ёмістасці да афарызму. Апавяданне і з'яўляецца мастацкім аналізам, доказам сэнсавай формулы зачыну. Успомнім навелу «Эх, махорачка»: «Бывае ў жыцці так, што самая позняя восень вясною здасца». Успомнім «Верасы на выжарынах»: «Вочы, вушы, сэрца, гарачая кроў ёсць у звяроў, у птушак, у жывёл, а мара — толькі ў аднаго чалавека» і г. д.

У «Семнаццатай вясне» юны герой толькі ўступае ў жыццё. Але вайна перакрэсліла ўсе планы, адразу азмрочыла жыццё. Нават бэз страціў свой чароўны пах. А далей у будзённых фарбах і тонах расказана аб самым радавым учынку герояў, аб тым, як яны ўзарвалі мост і забілі паліцая. І герой-апавядальнік зноў пачуў, «як прыемна пахне расцвіўшы бэз». Гэта паэтычная дэталь не толькі праходзіць праз усё апавяданне, але і абрамляе яго, надаючы твору мастацкую закончанасць і выразнасць.

У апавяданні адчуваецца аўтарскі голас, голас нашага сучасніка, ён — у манеры апавядаць, у тонкім і цёплым гумары, які нейтралізуе магчымую напышлівасць юнацкай мары, што лунае на крылах рамантыкі, і апускае героя на зямлю, у рэалізм суровых жыццёвых акалічнасцей. Пры гэтым адчуваецца не толькі ўлюбёнасць аўтара ў сваіх герояў, але і яго чалавечае хваляванне, перажыванні, якія не могуць не выклікаць сустрэчную хвалю пачуццяў у чытача.

Іншыя прыкметы стылю вызначаюць аповесць «Снежань». Аўтар пластычна абмалёўвае характары, выкарыстоўваючы прыём кантрасту, уважлівы да дыялогаў, якія добра перадаюць драматызм падзей. Аповесць увайшла пазней у раман «Сасна пры дарозе». З'ява правамерная, аднак, ці варта было пасля гэтага змяшчаць яе і ў «Выбраным»?

Маральна-эстэтычныя праблемы ў многіх творах зборніка займаюць вядучае месца. Асуджаючы розныя формы праявы недаверу да чалавечай асобы, мяшчанства і разбэшчанасці, перажыткаў мінулага ў свядомасці людзей, І. Навуменка выкарыстоўвае сродкі сатыры. У апавяданні «Соль», прысвечаным цяжкім будням партызанскай барацьбы, глыбокі падтэкст факусіруецца на тэме даверу да людзей і асуджэння чалавечай чэрствасці (вобраз летапісца атрада Дудкі).

Лірычная замалёўка «Месячная ноч» адкрывае ў зборніку новы цыкл апавяданняў. Тут радасць вызвалення і ўступлення ў рады рэгулярнай арміі для барацьбы з ворагам, тут першыя карціны працоўнага гераізму. «Дні незабыўныя, поўныя хмельнай радасці», — гучыць зачын да апавядання «Па махорку». Аднак у апавяданнях аб баявых буднях армейскага жыцця пісьменніку не заўсёды ўдаецца стаць над праўдай факта, адсюль і некаторы схематызм іх сюжэтных пабудоў («Дом над морам», «Ноч у літоўскім гарадку», «Сны»). Аўтарскія рэмаркі і прамыя публіцыстычныя выкладкі часам прыглушаюць у іх лірычнае гучанне тэмы хвалюючага прадчування заканчэння вайны, набліжэння перамогі і радасцей мірнай працы.

Трэці цыкл апавяданняў прысвечаны пасляваеннаму часу. На першы план ставіцца праблема чалавечага шчасця, паўнаты адчування жыцця. Герой праходзіць праверку на трываласць чалавека, на права сумленна і адкрыта глядзець у вочы людзям.

З суровай і бесчалавечнай вайны герой выйшаў, захаваўшы свае самыя запаветныя ідэалы: «Ён думаў пра людзей, пра свет гэтак жа, як і тады, да вайны, можа нават яшчэ больш палымяна і ўзнёсла». У гэтым «мірным» цыкле апавяданняў рамантыка мары і подзвігу ўступае месца імкненню асэнсаваць здзейсненае, разабрацца ў душы героя, апаленай вайною. Філасофскі роздум не толькі над далёкім ваенным мінулым, але і над нялёгкімі пасляваеннымі буднямі выклікае ў апавяданні новыя акцэнты і інтанацыі. Сюжэтны матыў сустрэчы сучаснага і мінулага, як і матыў няўдалага кахання, пастаянна хвалюе мастака.

Аўтар вяртаецца і да гераічных будняў трыццатых гадоў з іх рэвалюцыйным пафасам і ўсенародным энтузіязмам. «Водгулле далёкіх вёснаў» жыве ў сэрцах яго пакалення: «Калі разбірацца глыбей, то мы былі дзеці свайго часу і ў нашых марах было шмат ад яго героікі: перад вачамі стаялі подзвігі папанінцаў, абаронцаў граніцы ля возера Хасан і ракі Халхін-Гол, праслаўленых лётчыкаў».

Нельга не адзначыць, што майстэрства І. Навуменкі ў апошнія гады значна ўзрасло. Пісьменнік уважліва ставіцца да пабудовы сюжэта, дыялогу герояў, партрэта. І, безумоўна, ён цудоўны пейзажыст.

У аповесці «У бары на світанні» ён гаворыць: «Я пабываў у многіх гарадах у нас і за мяжой, хадзіў па карцінных галерэях. Але нідзе так не апаноўваў мяне святочны настрой, як у гэтым бары. Чалавек, мабыць, не падняўся яшчэ над прыгажосцю, якую стварае прырода». Лес у апавяданнях Навуменкі не толькі ўвасабляе сілу і магутнасць, прыгажосць і веліч роднага краю. Герояў немагчыма адарваць ад роднай прыроды, яны з ёю — непадзельнае цэлае з самых ранніх дзіцячых гадоў да глыбокай старасці. Не выпадкова аўтар усклікае: «Маю істоту перапаўняе адчуванне непарыўнасці, еднасці душы і цела з усім гэтым бясконцым і дзівосным хараламі жыцця». Сапраўдны апафеоз прыроды знаходзім мы амаль ва ўсіх апавяданнях і асабліва ў такіх, як «Па грыбы», «Над ціхай Віццю», «Прыпяцкая зона», у аповесці «У бары на світанні».

І. Навуменка — пісьменнік сталы і вопытны. Выданне асобнай кнігай яго выбраных твораў яшчэ раз сведчыць аб тым, што ягоная проза — жыццёвая ў сваёй аснове, напоўненая высокім грамадзянскім пафасам — знайшла шлях да сэрца чытачоў.

**Г. СІНЕНКА,**
кандыдат філалагічных навук.

Іван Навуменка. «Падарожжа ў юнацтва». Выбранае. Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1972.

**Леніна,**
**Праўду**
**І родны народ:**
**Ім толькі і можна даверыць**
**Зямлю,**
**Рэвалюцыю**
**І дзяцей.**

(«Мае настаўнікі»).

Чытаючы такія ўсхваляваныя радкі, у якім бы настроі і душэўным стане ні быў, адчуваеш, як панчанкаўская ўпэўненасць у сённяшнім дні, яго палымяная вера ў будучае пераліваюцца ў цябе, будзяць незвычайна светлыя пачуцці і напаўняюць цудоўнай бадзёрасцю...

Сэрца паэзіі — у яе змястоўнасці. Будучы паэтам глыбокім і шырокамаштабным, П. Панчанка заўсёды здымае з рэчаў і з'яў іх звыклыя будзённыя маскі, паказвае складанасць свету, яго патаемнае значэнне. Пад пяром П. Панчанкі мастацкасць апрацоўкі надае думцы яснасць, выпукласць, адчувальнасць, мастацкую праўду, менавіта праўду, а не праўдападабенства. А сіла паэта якраз і складаецца з праўдзівага, яркага паказу жыцця. Адметна, што метафары, алітэрацыі, эпітэты і іншыя элементы мастацкай формы ў творах П. Панчанкі ніколі не з'яўляюцца самамэтай. Яго паэтычная мова не робіць уражання спецыяльна прыдуманай, яна — натуральная, непасрэдная. Багатыя пачуцці і перажыванні, вельмі змястоўныя, напоўненыя вялікім сэнсам метафары ў яго не ўскладняюць, а, наадварот, заўсёды аблягчаюць мысленне... Можна сказаць, што сутнасць панчанкаўскай паэзіі менавіта ў тым, каб вяртаць словам іх першароднае, самае чыстае і важкае значэнне.

Уражвае, што ў новым зборніку Пімен Панчанка па-ранейшаму застаецца ўзнёсла-маладым па светаадчуванню, пачуццях, успрыманню жыцця. І галоўнае — у сваёй творчасці паэт не парывае непасрэднай сувязі са сваімі малодшымі сябрамі па пяру. З гэтага выпадку хацелася б цалкам працытаваць верш, які адрасаваны маладым паэтам:

**Вы мне нічым не абавязаны,**
**Жадаю гучнай вам вядомасці.**
**Але было ўсё ж нешта сказана:**
**Яно у вашай падсвядомасці.**
**Я вас не няньчыў і не песціў,**
**Ды нечы шлях крыху прадбачыў.**
**А лепшыя складзеце песні—**
**Не пазайздрошчу, не заплачу.**
**І на кручок пралаз не клюньце,**
**Бо прададуць (спярша паліжуць).**
**І на мае парады плюньце,**
**А болей кніжак, добрых кніжак.**

(«Маладзейшым»).

Разважаючы над гэтымі журботна-светлымі радкамі, міжволі прыгадваецца другі наказ паэта. У «Слове да маладых» Пімен Панчанка пісаў: «Без свайго адчування свету, без сваёй вобразнай паэтычнай думкі і непасрэднасці нельга стварыць паэтычны твор». І далей падкрэсліваў: «Гэта цяжка, для гэтага неабходны талент, веданне жыцця і штодзённая ўпартая праца».

Новая кніга самога паэта — для нас, маладзейшых, яскравы прыклад патрабавальнасці да сябе, да сваёй творчасці. І ўвогуле паэт Пімен Панчанка адзін з тых нямногіх сапраўдных мастакоў, якіх Рамэн Ралан называў «люстэркамі свайго веку».

**Мікола ФЕДЗЮКОВІЧ.**

*Сяброўскія шаржы* С. *ВОЛКАВА*



Алесь Яскевіч.



Васіль Зуёнак.



Генадзь Кляўко.



Іван Чыгрынаў.

# У ВЯНОК ДРУЖБЫ

Так здараецца даволі часта. Разгорнеш кнігу са знаёмым прозвішчам на вокладцы, і неяк па-новаму адкрыеш для сябе яе аўтара. Як пісьменніка, як чалавека, як грамадзяніна. Новымі гранямі заіскрацца рысы ягонага таленту, засвеціцца дабрыня і шчодрасць сэрца, адкрыецца багацце і хараство душы, эрудзіраванасць, высокае майстэрства — усё тое, без чаго немагчымы сапраўдны мастак слова.

Чалавекам высокай пісьменніцкай культуры быў шчыры прапагандыст нашай літаратуры Яўген Мазалькоў. Таленавіты перакладчык, крытык, літаратуразнаўца ён ніколі не забываў пра «пяючую зямлю» — Беларусь, дзе нарадзіўся, правёў дзіцячыя і юнацкія гады, адкуль пайшоў у вялікі свет жыцця. Глыбока сімвалічна, што кніжка, якая ўвабрала ў сябе ўсё лепшае з крытычнай спадчыны аўтара атрымала такую паэтычную назву.

Перачытваеш нанава яе старонкі (а гэтыя артыкулы і даследаванні добра вядомыя па ранейшых публікацыях), і адчуваеш, што сапраўды наша зямля — пяючая зямля. Аўтар паказвае, малюе нам літаратурную эстафету пакаленняў.

Манаграфічныя нарысы «Янка Купала» і «Якуб Колас», дарэчы першыя для свайго часу даследаванні, прытым найбольш значныя, пра нашых класікаў, якія былі прапанаваны ўсесаюзнаму чытачу, вельмі ўдала дапаўняюцца творчымі партрэтамі Максіма Танка, Аркадзя Куляшова, Петруся Броўкі. Аўтар заглядае ў лабараторыю і іншых пісьменнікаў. Ён прыкмячае «арганічнае зліццё асабістага з грамадскім» у Пімена Панчанкі, гаворыць пра «баявую, глыбока змястоўную сатыру Крапівы», цёпла расказвае аб творчасці тады яшчэ маладога Марка Смагаровіча.

І нельга не пагадзіцца з Нічыпарам Пашкевічам, аўтарам цікавай і змястоўнай прадмовы да кнігі. «Няма сумнення, — зазначае ён, — што кніга «Пяючая зямля» не толькі прынясе чытачу карысць пазнання, але і многімі сваімі старонкамі дасць яму асалоду, падобную той, якую мы адчуваем пры чытанні добра, лёгка напісанай аповесці».

Тыя ж нарысы пра творчасць Купалы і Коласа напоўнены тонкім, шчырым лірызмам. У іх жыве паэтычнае адчуванне аўтарам прадмета мастацкага даследавання (дарэчы, сам Я. Мазалькоў на пачатку свайго творчага шляху пісаў вершы), выразна заўважаецца асоба крытыка, не простага сузіральніка, а чалавека, які заклапочаны станам літаратуры, які па-сапраўднаму ўлюбёны ў творы тых, пра каго піша.

Менавіта гэты стылявы настрой, светласць думак, паэтычнасць і важкасць выказванняў сведчаць аб высокім крытычным майстэрстве іх аўтара, доўгім творчым жыцці. Невялічкі артыкул пра М. Багдановіча пісаўся яшчэ ў 1940 годзе. Цяпер выйшла пра жыццё і творчасць гэтага паэта шмат цікавых даследаванняў і манаграфій, у тым ліку і на рускай мове Р. Бярозкіна. Слова Я. Мазалькова не страчвае першароднасці свайго гучання.

Гэтаксама чытаюцца сёння і невялічкія крытычныя абразкі пра творчасць Я. Маўра і К. Чорнага, хоць першы напісаны ў 1943 годзе, а другі—у 1947.

Вельмі добра зрабіла складальніца кнігі К. Мазалькова, уключыўшы ў зборнік артыкулы «Шырокім фронтам» і «У вялікай дарозе». У іх аўтар аглядае беларускую прозу 50-х і 60-х гадоў. Я. Мазалькоў робіць цікавыя назіранні над творчасцю І. Мележа, І. Шамякіна і іншых вядомых пісьменнікаў. У артыкулах адчуваецца, што аўтар уважліва сочыць за развіццём літаратуры, з якой перакладае, бачыць асноўныя напрамкі яе, разважае аб стылі і майстэрстве пісьменнікаў.

І ўжо зусім надзённа (мы ж толькі нядаўна адсвяткавалі паўвекавы юбілей Саюза ССР!) гучаць разважанні, думкі, меркаванні Я. Мазалькова ў артыкулах «Вянок дружбы» і «З пачуццём братэрскай любові». У першым чытаем: «Сувязь з вялікай рускай літаратурай, літаратурай усіх народаў СССР — жыватворная крыніца, якая дае бесперапынны і магутны рост беларускай паэзіі». Гэтыя ж думкі развіваюцца і ў другім артыкуле. «Руска-беларускія літаратурныя сувязі, — зазначае аўтар, — якія маюць слаўныя векавыя традыцыі, выпрабаваныя ў агульнай барацьбе братніх народаў за свабоду, за гонар і незалежнасць Савецкай Айчыны, у наш час развіваюцца асабліва хутка і плённа».

Я. Мазалькоў гаворыць аб якасці перакладу твораў беларускіх пісьменнікаў, ён узнімае пытанні павышэння кваліфікацыі саміх перакладчыкаў. Жывы літаратурны працэс у творчасці аўтара раскрываецца поўна і ўсебакова.

Даследчыя артыкулы, рэцэнзіі Яўгена Мазалькова, напоўненыя светлым роздумам аб развіцці беларускай літаратуры, зацікавяць чытача. Яны — каштоўны набытак нашага літаратуразнаўства.

**А. ВІШНЕЎСКІ.**

Я. Мазалькоў. «Пяючая зямля». Аб беларускай літаратуры. На рускай мове. М., «Советский писатель», 1972.

# ЦІКАВАЯ МАНАГРАФІЯ

Гэтымі днямі выйшла з друку ў выдавецтве «Навука» (Масква) манаграфія доктара гістарычных навук супрацоўніка Інстытута гісторыі АН СССР М. Улашчыка пад назвай «Нарысы па археаграфіі і крыніцазнаўству гісторыі Беларусі феадальнага перыяду».

Аўтар падрабязна спыняецца на прынцыпе адбору і публікацыі дакументаў, прасочвае гісторыю стварэння і дзейнасць археаграфічных устаноў, прыводзіць весткі аб людзях, якія займаліся выданнем дакументаў, дае крыніцазнаўчую ацэнку публікацыям. Эпіграфам да кнігі ўзяты радкі Янкі Купалы:

**Ад прадзедаў спакон вякоў**
**Мне засталася спадчына;**
**Сярод сваіх і чужакоў**
**Яна мне ласкай**
**матчынай.**

Кніга праілюстравана малавядомымі фотаздымкамі.

**С. КОЙДАНАЎСКІ.**

СЛОВА БЯРЭ ЧЫТАЧ

# УПЭЎНЕНАСЦЬ

З цікавасцю пазнаёміўся я з другім паэтычным зборнікам маладога паэта Сяргея Панізніка «Палявая пошта». Гэтая назва вызначае і змест самой кнігі. Большасць вершаў, якія змешчаны ў ёй, прысвечаны вайсковай тэме, армейскім будням, савецкім воінам, тым, хто пільна і надзейна стаіць на варце міру.

«Цалую меч» — першы раздзел зборніка. У вершы «Меч» паэт падкрэслівае, што абарона Радзімы — справа пачэсная, справа мужных.

**Меч баявы не падуладны слабым,**
**Яго цяжар не для пахілых плеч...**
**Клянуся тваёй сілаю і славай,**
**Дзяржавы нашай справядлівы меч.**

Багаты па зместу верш «Раён вучэнняў». У ім вельмі добра паказана своеасаблівая рамантыка армейскай службы. Хвалююць С. Панізніка і агульначалавечыя матывы. Цэлую нізку вершаў ён прысвяціў каханню. «Парасткі сонца» — так называецца гэты лірычны цыкл. Паэт знаходзіць трапныя і свежыя словы для выказвання высокага чалавечага пачуцця. Лепшыя вершы лёгка запамінаюцца («Любоў не судзяць», «Не скінь абдымак мой з плячэй...», «Сустрэча» і інш.).

Аўтар сцвярджае, што каханне — гэта такое пачуццё, якім трэба даражыць і якое трэба ўмець берагчы: «Давай з табою вернемся нанова да першага нясмелага паўслова, дзе спеліцца зажыначная мова на сэрцамі асветленай зямлі».

Раздзел «Чуйнае рэха» — пра дарагія сэрцу паэта родныя мясціны. У іх шмат знаёмага, і ў той жа час уражвае непаўторнасць думкі і шчырасць пачуцця лірычнага героя.

Праўда, у зборніку «Палявая пошта» мяне як чытача не ўсё задавальняе. У некаторых вершах маладога паэта адчувальны запазычаныя матывы, месцамі ён піша да таго ўскладнёна, што нават цяжка зразумець аўтарскую задуму. Вершы ў такім выпадку пачынаюць гучаць ледзь не парадыйна.

Аднак галоўнае іншае. Калі ў зборніку «Кастры Купалля» С. Панізнік зрабіў толькі ўдалую паэтычную заяўку, то ў новай кнізе ён нарадзіўся як паэт. Аўтар упэўнена штурмуе паэтычныя вяршыні. Праўдзівасць, шчырасць пачуцця — вось што характэрна для сённяшняга С. Панізніка як паэта і як грамадзяніна. Калі я чытаю ў яго: «Сем дарожак з дому, да дому — адна. Можна й не вярнуцца... Ці не мая віна?», то адчуваю, што гэта не аўтарская поза, а жыццё — такое, якое яно ёсць.

Армейская служба стала для С. Панізніка справай яго жыццёвага лёсу. Паэт і воін ідуць у адным страі.

**Д. ЖУК,**
**афіцэр.**

Мікола
РУДЗЬ

# АПОШНІЯ БАРОЗНЫ

У выдавецтве «Мастацкая літаратура» ў хуткім часе выходзіць анталогія ўкраінскага апавядання, куды ўвойдуць лепшыя творы больш чым сарака празаікаў як старэйшага, так і малодшага пакаленняў: А. Галаўка, А. Вішні, П. Панча, А. Даўжэнкі, А. Дончанкі, А. Кундзіча, Я. Галана, І. Вільдэ, А. Ганчара, М. Стэльмаха, В. Казачэнкі, Ю. Збанацкага, Н. Рыбака, П. Заграбельнага, Я. Гуцалы, І. Багмута і інш.

Прапануем увазе чытачоў апавяданне Міколы Рудзя з анталогіі.

АРЫШКА заначавала ў маці.

Цярэнцій каторы раз абходзіў сваю сядзібу. Удоўж і ўпоперак. Ад тыну да самага азярка Вішнева, якое даўно абмялела і густа зарасло раскаю.

Ён час ад часу паглядаў на дарогу, прыслухоўваўся, ці не затуркоча дзе Арышчына матацыклетка. Паволі клыпаў мяжою, мацаў нагамі цвёрды дзірван, курыў турэцкі, дробна нарэзаны самасад і глуха кашляў у чорны ад дыму кулак. Цярэнцій прыкметна накульгваў на левую нагу. Кульгаць ён надумаў адразу пасля фронту. Гэтая выдумка яго зрабілася неўзабаве прывычкай. Сёння ж яму асабліва хацелася выглядаць кульгавым і моцна пакалечаным.

Прыпыняючыся на хвіліну, Цярэнцій падцягваў штаны, пажарніцкі пояс, на якім матляліся садовыя пілкі, нажы і розныя бляшанкі. Зямля запарава́ла — клопату па горла, а тут усе ўсхадзіліся з прычыны нейкіх лішак. Трэба будзе пазмагацца. Ужо ён нікому не дасць спуску. Хто б ні явіўся сюды — з плугам ці з сажнем — усё адно!

А прыходзілі ўжо не раз. Цярэнцій з Арышкаю, праўда, тыдні два-тры пасля гэтага дружна працавалі ў калгасе. Потым Цярэнцій ездзіў у раён да таварыша Байбака і Даніі Свірыдаўны, і ўсё аставалася па-ранейшаму, бо Цярэнцій Хекала першым памідорам начальства прывык частаваць... Пагамоняць трохі, бывала, пагамоняць, ды на тым усё і канчалася.

Цяпер, вядома, не так. Не той час. Паразганялі, парастыкалі Цярэнцевых сяброў... Ніводзін не затрымаўся ў наменклатуры, на самыя нізы спусціліся. Ні падтрымкі цяпер, ні заступніцтва, відаць, не дачакаешся. А да Антона, да таго і зусім не патыкайся. Чортам зіркае на ўвесь хекалеўскі род!

З усіх бакоў нападаюць на Цярэнція. Заступаюць яму дарогу да сапраўднага жыцця, не даюць, як кажуць, пажыць для сябе, а не тое што на чужую радасць. Падразаюць Цярэнцевы крылы. Цягнуць яго на шырокія нівы. А навошта яны яму? Вялікая зямля — вялікі і клопат. Сэрца ж Цярэнція не можа змясціць у сабе ні вялікага клопату, ні вялікага болю.

Некалі ён, бывала, размахваўся ад небасхілу да небасхілу. Здавалася, колькі б асягнуў вокам, столькі б і ўзараў, і засеяў, і ўсё да апошняга б каліўца, птушцы на ніве не было б чаго клюнуць, мышы зернятка не адшукаць. Але гэта было даўно, калі яшчэ не быў жанаты, калі па стэпе ездзілі на валах, калі не патыхала бензінам ды маслам, не было працадзён і брыгад.

Па сваёй натуры і душы Цярэнцій і дзяўчыну прыгледзеў, угаварыў, з хутара выцягнуў — Арышку... Спрытная, дужая, за дзень траіх абставіць! Карову падоіць — у выме кроплі малака не пакіне, на вілы капу лёгка падымае, а мех ускіне на плечы — не сагнецца. Меркаваў: жыць будуць дзе-небудзь наводшыбе на ўскраіне стэпу, пад ацынкаваным або чарапічным дахам. Вароты — з вялікай выкаванай зашчапкаю, у двары сабака — муха не праляціць!

Летам праца каля зямлі, а ўзімку цёплая печка, кілбасы.

Гуляй сабе са сватамі ды кумамі, з усёю раднёю — ад Вішнева да Арылі. Калі-нікалі боты паправіш, пасядзіш, паслухаеш, як жонка прадзе, нітку сукае і, каб не задрамаць, ціха напявае сабе пад нос.

На той зямлі і спіна, здаецца, не балела, хоць і спаў менш за жаўрука. А на гэтай вось — без канца і краю — на гэтай і паясніцу ломіць, і галава ад сонца хадуном ходзіць.

Цярэнцій падышоў да разгалістага грушавага кала, які тарчаў каля самае хаты. На ім падсыхалі гляkі, збаны, місы. У паветры стаяў пах адтопленай смятаны, сырадою, свежай духмянай травы, Арышчынай дайніцы. Неўзабаве і калок паляціць к чортавай матары! Малако і тварог давядзецца везці ў малачарню. З пахмелля і сыроваткі ўволю не пап'еш! Да гэтага ўсё ідзе. Антон не Байбак. Гэты давядзе справу да канца, запхне ў камяніцу на два паверхі. З газам. Бывай тады, смажаная на саломцы паляндвічка. Але ж у Маркса пра гэта ні слова. Сам перачытваў. Усё больш пра эксплуататараў.

А Цярэнцій самы закляты іх вораг! Цярэнцій са свае працы жыве. Тое-сёе ў калгасе, а то усё — дома. Ды яно і калгасу не цяжка, калі Цярэнцій на сядзібе сваёй гародніну вырошчвае. Капейкі з грамадскай касы не чапае, вачэй не муляе ў канторы, сам на сябе зарабляе.

І вось дагуляўся гвардыі радавы. Гэтак ён пасля вайны вітаўся: «Гвардыі радавы Цярэнцій!» А пазней, калі прайшлі гады, а з імі і мода, ён ужо гаварыў: «Гвардыі ездавы Цярэнцій!»

Праўда, на конях ён ездзіў нядоўга. Пакуль не прывёз усяго, у чым меў патрэбу ў гаспадарцы, а пасля здаў коней і брычку.

Пайшоў у садова-гародную брыгаду, пачаў з перагною гаршчэчкі штампаваць. І сабе варштацік зрабіў. Перагною дома заўсёды хапае, а ранні памідорам хто не пазайздросціць! Ды Цярэнцій глядзеў яшчэ далей. Змайстраваўшы рухавічок, пачаў пампаваць ваду з Вішнёва. Усю сядзібу трубамі ды шлангамі аблытаў.

Калі часам сусед заглядаў да яго праз паркан — ці не збіраецца Хекала на працу ў калгас, — Арышка, ладзячы ў дарогу матацыклетку, толькі рукамі махала: «Цярэнцій туды не хадок! Пайшла вада — няма ні хвіліны вольнага часу!»

Арышчына маці жыла на чугуначнай станцыі, дзе заўсёды лёгка можна было зарабіць лішнюю капейку. Пасажырскія цягнікі кожны раз спыняліся там на колькі хвілін, і таму, што б чалавек ні падвёз у час — усё хапалі з рук, толькі давай. Ад Казачага Вала да станцыі было дванаццаць кіламетраў. Арышка, рухавая, чырванашчокая, у бушлаце і скураных пальчатках, як не круглыя суткі гайсала на матацыклетцы з каляскаю, нагружанай кашамі, рэшатамі, мяхамі і скрынямі. Ні навальніца, ні бура не маглі затрымаць Арышку, бо там, на прыстанцыйнай плошчы, стаіць родная маці, чакае падвозу, папаўнення асартыменту. Гэта жывая, гарачая справа. толькі паспявай паварочвацца, паглядаць на ўсе бакі! У Казачым, мусіць, ніводзін з трактарыстаў не можа зраўняцца па заробках з Цярэнціем ды Арышкаю. Але Хекалы не забываюцца і на працадні. Калі ўжо няма чаго рабіць на ўласным агародзе, Цярэнцій бярэ пілку і сякеру, долата і свярдзёлак, гэбаль і малаток і падаецца ў будаўнічую брыгаду. Яго спрытныя рукі ўсюды патрэбны, бо ён да ўсяго здатны, усё ўмее рабіць. Ды і калгасу выгадна мець свайго майстра, а не наймаць людзей прышлых, якія за любую паслугу бяруць страшэнныя грошы. Арышка зарабляла на таку. Калі трэба было, яны абое вярталіся з калгаса паволі, не спяшаючыся, каб усе бачылі, што Цярэнцій з Арышкаю напрацаваліся да поўнай стомы. Але як толькі выганялі па сотні працадзён, імпэт адразу прападаў. З такою выпрацоўкаю Цярэнцій мог ездзіць у раён, у вобласць, пісаць у рэдакцыі газет, скардзіцца ў любую інстанцыю, што яму, параненаму на франтах, не даюць спакойна жыць, не даюць з'ездзіць на воды падлячыць нервы, што яго прымушаюць рабіць для Казачага Валу тое, што можа зрабіць толькі малады і дужы чалавек.

Спробы выключыць Цярэнція з калгаса канчаліся толькі спробамі. Цярэнцій заўсёды выходзіў сухі з вады. Ды і не кожны з членаў праўлення ці дэпутатаў сельсавета па сваёй волі ішоў на яго сядзібу. Ад Цярэнція ўсяго можна было чакаць. Калі трэба было, ён мог прыкінуцца прыпадачным, пачынаў ірваць на сабе вопратку. Жартаваць з ім ніяк не выпадала!

Гэта было раней. Цяпер ужо не тое. Учора Цярэнцій нарэшце зразумеў, што усім яго выбрыкам і фокусам—канец. Баразна праляжа на жывым целе яго сядзібы, і адрэзанай скібы больш ніколі не вернеш. І пракладзе тую баразну не хто іншы, а Кірыл Запарожац, яго равеснік, яго друг, яго кум, яго родзіч.

Цярэнцій пабойваўся Кірылы. І ўсё пасля таго кажуха, які ён узяў у ягонай хаце той незабыўнай халоднай восенню. Вядома, Кірыл не будзе чакаць, пакуль Цярэнцій сам адчыніць вароты. Калі Цярэнція не будзе дома (ён ужо гэтак рабіў, калі людзі прыходзілі да яго на сядзібу), Кірыл зробіць усё і без Цярэнція.

На гэты раз, відаць, дагуляўся. А можа, і не. Хіба Кірыл жалезны? Учапіцца, скруціць шыю, няхай носам рые зямлю! Абы толькі сведак не было. Сведкі — паганая справа. Можна апынуцца на лаве падсудных. Праўленцы заўсёды ходзяць толькі са сведкамі. Дэпутаты з імі, улада. Каб не той шалудзівы кажушок, Цярэнцій таксама даўно ўжо хадзіў бы ў дэпутатах. Праз яго, толькі праз яго Цярэнція ні разу не выбралі ў праўленне.— колькі вады за гэты час сплыло ў Дняпро!.. Але калі шчыра казаць, то яна, гэтая ўлада, не дужа яму і патрэбна. Галоўнае, каб не адрэзалі лішку, каб не заглядалі ў ягоны агарод. Навошта яму тое дэпутацтва...

О, здаецца, хтось кліча! Так, гэта Кірылаў голас. Грукоча ў чужыя вароты, нібы ў свае ўласныя, нахабнік.

Пакуль Цярэнцій ад мяжы падышоў к хаце, Кірыл паспеў ужо зняць з завесаў вароты і па-гаспадарску паставіць іх збоку. Ён не шукаў ні выкаванай у кузні клямкі, ні патаемнай зашчапкі. Скінуў усё разам «Гэта ўжо сапраўднае беззаконне», — падумаў Цярэнцій.

Кірыл з'явіўся без сведак. Адзін. З сажнем, пугаю і параю гнядых у плузе. Усё зразумела: ніякіх размоў, ніякіх угавораў і перакананняў. Хоча таго Цярэнцій ці не хоча, правядзе плугам баразну — і будзь здароў!

Цярэнцій маланкаю падляцеў да гнядых, учапіўся за лейцы і, адварочваючы конскія галовы ад сябе, ад зямлі, густа аблытанай трубамі, зычна крыкнуў: «Назад!»

Кірыл усю вайну прайшоў разведчыкам. Ён спрытна перахапіў Цярэнцевы рукі і ледзь прыкметна іх крутнуў. Рукі адразу выпусцілі лейцы, сам жа Цярэнцій толькі вочы вылупіў ад нечаканасці.

— Добры дзень, Цярэнцій! — быццам нічога і не здарылася, спакойна сказаў Кірыл.

— Добры дзень! — буркнуў у адказ Цярэнцій.

Востры, насцярожаны позірк з-пад навіслых броваў бліскаў рашучасцю і непрымірымасцю.

— Прыехаў, куме?

— Прыехаў, куме...

— Пракладаць баразну?

— Пракладаць баразну.

— Па самы парог?

— Не, не па самы парог. Пятнаццаць сотак табе, а рэшту нам, далучым да масіву. Агароджу з боку стэпу — прэч. Я буду пракладаць баразну, а ты перанось усю гэтую старызну, каб мне не запрашаць камсамольцаў на суботнік.

Маладжавы, чубаты, з насмешлівымі вачамі-чарнаслівамі, Кірыл аглядаў сядзібу. Вельмі ж смешная была ў Цярэнція агароджа. Штыкеціны афарбаваны ў розны колер, у свой час павыдзіраныя з грамадскіх платоў, з агароджаў у суседніх сёлах, калі Цярэнцій яшчэ ездзіў на брычцы. Старыя фанерныя лісты, іржавая бляха, пабіты шыфер, паламаныя лыжныя палкі, нейкія дзіравыя скрыні, падкрылак са збітага ў вайну самалёта...

Чаго толькі не нацягаў у двор Цярэнцій! Паміж старых начовак, у якіх маткі некалі купалі немаўлят, паміж пагнутых, перагарэлых духовак, у якіх выпякалі вясельныя пірагі, тарчала разарваная руля зенітнага кулямёта. Дзесьці ў стэпе падабрала Арышка... З аднаго гэтага жалезнага лому можна было б у мартэне зварыць паўнаважкую плаўку!

Усё гэта складалася ў кучы, нарошчвалася адно на адно, вышэй ды вышэй, звязвалася дротам, кабелем, кавалкамі тросу. Увязваў Цярэнцій па усіх правілах, на гады. Ніякія буры, што часам налыталі на Казачы Вал, не маглі паваліць узведзеных гаспадаром заслонаў,— адно моцна ўрасло ў зямлю, другое пружыніла, трэцяе матлялася, але нішто не паддавалася ніякаму націску.

Цярэнцій усяляк стараўся адвесці ўвагу няпрошанага госця ад сваіх складаў, што ўзвышаліся паміж сядзібаю і калгасным полем.

— Ты, куме Кірыл, крыху не так зрабіў...

— Што гэта, куме Цярэнцій, я крыху не так зрабіў?

— Ды не з таго пачынаеш...

— А з чаго трэба пачынаць?

— З газы ды з запалак...

Вочы ў Цярэнція бліснулі злымі агеньчыкамі.

— Трэба як след абліць усё газаю, пачынаючы ад хаты, хлява і птушніка, а потым чырк запалкаю... Пах—і няма! А папялішча—трактарамі, трактарамі! Да самае гліны! Пераараць, перавярнуць па-свойму... Быў Цярэнцій Хекала, заснавальнік калгаснага ладу ў Казачым, сумленны мічурынец — і няма! Нават следу не асталося!

Кірыл паглядаў з-пад брыля на Цярэнція і маўчаў. Няхай гаворыць.

— Перавярнуць трактарамі... І ўсё?

— Не, не ўсё. На месцы парнікоў пасеяць грэчку. Цудоўны дасць ураджай. Можаш мне паверыць. Скасіць, змалаціць, потым змалоць... А Марына твая блінцоў напячэ...

— І ўсё?

— Не, не усё. Першым блінцом ты падавішся!

— Дзякуй за добрае слова, куме Цярэнцій.

— Ешце, што зарабілі, куме Кірыл.

Кумы — першы стройны, высокі, крышку сіваваты, а другі несамавіты, з лупатымі вачамі — кідалі адзін на аднаго грозныя позіркі.

Коні стаялі збоку і толькі здзіўлена круцілі галовамі: маўляў, на сядзібах заўсёды якая-небудзь марока ці звада будзе. Прабяжыш тры баразны, а выстаіш як ні ўвесь дзень.

Цярэнцій паправіў на галаве шапку, сеў на тоўстае хваёвае бервяно, прыкрыўшы задам выбітае таўро: «Прамень».

Сеў на бервяно, паправіў шапку і Кірыл.

— Гм, так,— сказаў Цярэнцій.

— Гм, так-так,— сказаў Кірыл.

— Значыць, будзеш адразаць?

— Буду адразаць.

— А ты сваё адрэзаў?

— Адрэзаў сваё. Даўно адрэзаў. Апошнюю баразну правёў адразу, пасля таго як вашага Сідара са старшынь пагналі...

— І не смылела табе сэрца, калі адразаў?

— І не смылела мне, калі адразаў.

— Ну і што, лягчэй зрабілася на душы?

— Так, лягчэй зрабілася.

— Як сто шаптух пашаптала?

— Як сто шаптух пашаптала.

Цярэнцій не верыў, нікому б на свеце не паверыў, каб не заныла сэрца ў чалавека, калі плуг не прыразае, а адразае скібу за скібаю ад тае паласы, на якой хоць раз давялося капнуць рыдлёўкаю, пасадзіць расаду, дачакацца ўраджаю. З лёгкай душою аддаць гэта, на яго думку, можа толькі той, хто ні разу ў жыцці не пасаліў зямлі сваім потам, хто не бачыў, як апоўдні абуджаюцца ўсходы і сілаю сваёю прыкметна прадзіраюць зацвярдзелую скарынку глебы.

— І за ўсё жыццё ў цябе ні разу не заныла пад сэрцам, куме Кірыл?

Кірыл Запарожац устаў, выпрастаўся, стукнуў сажнем па бервяну, нібыта збіраўся мераць усё тое, што прынесла яму боль на вяку. Пільным позіркам правёў па-над усімі парканамі, загароджамі, паветкамі; акінуў вачамі ўвесь далягляд ад Казачага Валу да Арылі; ад Вішнева да сініх лугоў за Дняпром; ад Цярэнцевага жалеза да стэпавых узмежжаў, зазубленых франтонамі калгасных



Мал. А. САПЕТКІ.

фермаў і радыёантэнамі трактарных вагончыкаў; ён сягаў сваім поглядам яшчэ далей, туды, дзе хвалямі шугала зялёнае мора азіміны, дзе стэп зліваўся з небасхілам, дзе межы пазначаны ўжо прыгранічнымі слупамі суседніх дзяржаў...

— Заўсёды ныла пад сэрцам, куме Цярэнцій,— ціха адказаў Кірыл.— Ныла маім продкам, калі яны з Вішнева хадзілі ў паходы на лютага турка; ныла бацьку майму, калі ў семнаццатым ён штурмаваў Зімні... Дужа ныла і мне, калі я за адзін дзень абмалочваў усю сваю збажыну...

— Прыгадала бабка дзевера,— нядбайна махнуў рукою Цярэнцій.— Ты б яшчэ з князя Уладзіміра пачаў...

— Ты спытаў, я адказваю... Асабліва ж моцна ныла на Волзе, калі каўтаў гарэлую гліну і чорны попел, калі пазногці абдзіраў, чапляючыся за бераг... Страшэнна ныла, куме Цярэнцій.

Цярэнцій панура апусціў галаву, ён ужо шкадаваў, што зачапіў за жывое.

— Не знаходзіў сабе месца і тады, калі ваш Сідар са сваімі дружкамі паскудзіў, нявечыў поле, чыніў здзек над зямлёю. Добра яшчэ, што не ў аднаго мяне ўсё ў душы пераварочвалася, а то б Сідар увесь стэп запаскудзіў! Яшчэ і цяпер у сне жахаюся ад пустазелля.

— А ты зірні на Месяц,— уставіў Цярэнцій,— там, кажуць, усё зарасло чартапалохам. Папакутуй і за Месяц! Можа, і там барозны правядзеш...

— У цябе не папытаю. Калі трэба будзе, правяду і на Месяцы!

— Бачу, прамоўца з цябе выйшаў сусветнага маштабу. Мая ж сядзіба — з макавае зярнятка. Табе тут і разгарнуцца няма як.

Кірыл ніжэй на вочы насунуў шапку.

Ніжэй насунуў і Цярэнцій.

— Тупай туды, адкуль прыйшоў,— кінуў Цярэнцій. — А за вароты і вывіхнутую руку, — ён пачаў нервова церці левую руку,—расквітаемся ў судзе.

Кірыл прамаўчаў. Цярэнцій да раніцы мог сам сабе гузакоў набіць, абярнуць паркан... спляжыць сабаку, паскардзіцца ў раён на самаўпраўства і разбой.

— Цяжка мне з табою, куме Цярэнцій.

— А мне з табою тым больш, куме Кірыл.

— Ішоў бы ты ў брыгаду. Ёсць дзе паказаць сябе мічурынцу. У людзей на вачах. З імі і пасумуеш, з імі і пасмяешся.

— У мяне век вераб'іны... Куды ўжо мне па брыгадах хадзіць... З мяне хопіць!

А дзеці? Хіба яны ніколі ўжо не вернуцца ў Казачы?

— А што ім тут рабіць? Слухаць Антона і чакаць, калі ён райскі яблычак падасць! Дзеці ўжо не вернуцца сюды.

Кірыл памаўчаў. Потым сказаў:

— Гэта падобна на вас, Хекалаў. Вельмі падобна! У дваццаць дзевятым ты плюнуў на Казачы Вал, на зямлю, сеў на брычку і падаўся за Дняпро. На завадскі конны двор. Наняўся фурманам...

— Гэта ўжо мой клопат быў... Есці лебяду з мякінай ці ездзіць фурманам.

— Ты лебяды не нюхаў. Лебяду гатаваў я... На нагах не стаяў, хістаўся, а ў стэп ішоў. Зямлі не пакінуў. Малачко з каласкоў высмоктваў, але ачуняў урэшце рэшт. Ураджай вырасцілі... Хлебам усіх надзялілі...

— Кожнаму сваё..

— Так, кожнаму сваё. У сорак сёмым ты зноў пакінуў гаспадарку на Арышку, а сам падаўся за Дняпро. Лайдачыў да таго часу, пакуль Сідар старшынёю не стаў. А я зямлі не пакінуў. Я з пустазеллем, з Хекаламі ваяваў. Стагнаў, а з баразны не сышоў!

— Благога каня і дурань ганяе.

— Гэта праўда.

І Кірыл рашуча ўзяўся за сажань.

— А каб благому каню не муляла пад хамутом, бяры сажань і сам ідзі адмервай. Я пагляджу на твае вераб'іныя поспехі.

— Адмервай ўжо сам... Толькі не забывай, што я і з пятнаццаці сотак па два ўраджаі буду здымаць. І табе і ўсёй тваёй брыгадзе нават не снілася, што ў мяне ўродзіць. Адмервай!

— На ўсё свой час. А зараз выходзь на працу.

— Па сіле магчымасці.

— Тады адрэжам..

— З мяне і пятнаццаці хопіць.

— Адрэжам па самы парог.

— А я лімоны пачну вырошчваць. У дзежках, у збанах. Паўхаты пад лімоны адвяду.

— Адводзь хоць і ўсю хату, але працуй у брыгадзе...

— Па сіле магчымасці.

— Тады пакажам дарогу з Казачага. Выкінем прэч, каб не смярдзеў сваёй спекуляцыяй.

Кірыл прывязаў лейцы да слупа і, не азіраючыся, не слухаючы Цярэнцевай балбатні, рашуча падаўся ў бок агарода.

Ён ішоў павольнаю ступою, нібыта нёс у гэтую хвіліну на сваіх плячах увесь цяжар і адказнасць за зямлю — ад дзён штурму Зімняга да выгнання Сідара Хекалы.

Кірыл прымінаў стрэлкі леташняй цыбулі, што паднялася з-пад перагнойнай падушкі, прыгінаў галіны, на якіх яшчэ не праклюнуліся лісточкі, без жалю абмяраў Цярэнцеву сядзібу, тую яе частку, якую паводле пастановы калгаснага сходу трэба было адрэзаць і далучыць да зялёнага масіву, што падступаў да самага жалезнага засloнку і пераліваўся ў аблямоўцы прыфермскага травастою.

Цярэнцій цішком падкраўся, схапіў сажань і заступіў дарогу Кірылу.

— Зямля адыходзіць ад цябе, Цярэнцій. Пусці!

— Не даводзь да граху!

— Дай сюды сажань!

— Не даводзь да граху, кажу!

— Твае правы страчаны... Адыдзі!

— Вось мае правы!

Цярэнцій адным рухам сарваў пажарніцкі пояс з усімі прычындаламі, кінуў на градку, разадраў на сабе старэнькую кашулю ў палоску, тыцнуў голым, з сінім шрамам, локцем у Кірылаў падбародак.

— Крамянчуг нюхаў?

— Ведаю пра гэта, — спакойна адказаў Кірыл і, узяўшы сажань, пайшоў далей.

— Сандамір! — Цярэнцій чорна-каштанавымі пальцамі пачаў стукаць сябе паміж рэбрамі.

— Ведаю, — паўтарыў Кірыл, перастаўляючы сажань.

— Мала!? Гэта што, незаконныя пячаткі?!

Цярэнцій увесь ажно калаціўся ад злосці і блытаўся ў Кірылавых нагах.

— Рэйхстаг! І гэтага мала?!

— Мала, куме Цярэнцій, — ледзьве стрымліваючы гнеў, сказаў Кірыл.

Сажань ляжаў на зямлі. Кірыла трымаў Цярэнцеву руку вышэй кісці і, здавалася, адбіваўся ад яго, як ад злога, цупкага чартапалоху.

— Колькі я адмераў? — ці то сам у сябе, ці то ў Цярэнція перапытаў Кірыл. — Дзевяць па тры... Дваццаць сем... Мала!

Цярэнцій ўжо не мог зразумець, чаго мала Кірылу: адмераных сажнем сотак ці паказаных пячатак вайны на целе.

— Пячаткі, Цярэнцій, у цябе, вядома, ёсць, хоць і запозненыя. Што было, тое было. Аднак ёсць яшчэ адна пячатка на табе... Ты ведаеш якая.

Шчокі ў гаспадара запалалі агнём. Кірыл адчуў, як рука ў Цярэнція адразу абвяла, і ён выпусціў яе.

— Я правяду апошнія барозны, — гучна сказаў Кірыл. — Болей ужо не будзе ні адрэзкаў, ні прырэзкаў... Вось што.

— Куды ўжо болей, — ціха прамямліў Цярэнцій. — Увесь я зрэзаны... Жывога месца не асталося...

— А тае чорнае пячаткі ты яшчэ не змыў... Па той бок свае агароджы не змыў. А пара!

Цярэнцій матлянуў разадранай кашуляй і зноў тыцнуў перабітым локцем у твар Кірылу.

— У цябе пальцаў не хопіць, каб падлічыць мае раны, — суровым голасам вымавіў Кірыл. — Ды толькі я іх нікому не паказваю. Ні ўладзе, ні нават Марыне. Раю і табе... Мяне фрыцы тапілі ў Волзе, а ты з плячэй мае маці сарваў мой кажушок, куме Цярэнцій. З хворай сарваў і аднёс, каб прыкрыць галазадых акупантаў. Няхай мацней б'юць кума Кірылу!

Цярэнцій маўчаў унурыўшыся. Ён тупарылым наском бота старанна разграбаў зямлю, тую, што прырэзаў ад стэпу за сілаю адабраныя кажухі ў салдатак з Казачага Вала. Можна было падумаць, што ён шукае штосьці даўно згубленае і ніяк не можа знайсці. А знайсці трэба.

— Было гэта, куме Цярэнцій?

— Было, куме Кірыл.

— А я табе да сённяшняга дня ні гу-гу. Ні я, ні ўлада...

— Я за сваё разлічыўся...

— Разлічыўся і адгарадзіў сябе ад белага свету. Расплюшчыш на світанні вочы, і першая думка ў цябе пра тое, што ў агароджы... А што за ёю, па другі бок, — табе напляваць.

— А хто ж падумае пра мяне?

— Жывеш толькі для сябе, Цярэнцій... Нельга жыць аднаму... Ты не воўк.

Цярэнцій усё яшчэ разграбаў зямлю тупым наском бота. Добрая была зямля. І ўгноена, і потам паліта. Вырошчваць бы на ёй вінаград... Ён часам чытае біблію. Сапраўды, на той зямлі, што была куплена за трыццаць срэбранікаў, нічога не радзіла. Не ўмелі дагледзець, як след. А ў Цярэнція ўсё так і шугае, дзе б ні пасадзіў! Ён умее!

Кірыл ціха пляснуў у далоні, — трэба справу рабіць, а не языком малоць. Ён накіраваўся да коней, якія застаяліся ўжо без работы. Вядома было і так: як ні адрэж — уздоўж ці ўпоперак, вузка ці шырака — Цярэнцію гэта разане па самым сэрцы. Бінт ад раны, рана ці позна, усё роўна аддзіраюць. А што б узяць Цярэнцію лейцы ды самому правесці коней. Можа б, і адлягло.

— Правядзі, куме, коней.

— Гэта імем якога закону? — ніяк не мог супакоіцца Цярэнцій.

— Імем тысячы самых працавітых людзей з Казачага Вала.

— Рабі ўжо сваю справу сам. Ды хутчэй!

Кірыл Запарожац моцна тузануў лейцы. Коні нацягнулі пастронкі і дружна крануліся з месца.

Плуг заглыбіўся ў мяккую зямлю, і лямех адвярнуў ажно сінюю ад чарнаты скібу. Глеба была добра ўгноеная, дагледжаная. Нічога не скажаш, Цярэнцій ведаў, як весці гаспадарку.

У баразну кінуліся лавіць чарвякоў пародзістыя куры. Аднекуль прыляцеў грак, азірнуўся на бакі і паважна пайшоў за плугам, схуднелы за зіму, з бліскучымі пацеркамі вачэй, абведзенымі шызымі абадкамі.

Працавалі ўсе. Адзін толькі Цярэнцій стаяў без справы на зямлі, па якой увесну сорак трэцяга года цяжка перастаўлялі ногі пакалашмачаныя, аброслыя шчаціннем, схуднелыя фрыцы...

Можа не трэба было прыразаць гэтай зямлі. Можа не трэба было і адгароджвацца? Хто ж бярэцца за рыдлёўку, калі стэп спрэс здратаваны штыкамі, перааараны жалезным плугам вайны?! Аднаму такая зямля шчасця не прынясе.

Цярэнцій Хекала стаяў, як укапаны, і пазіраў на ўсё змрочнымі вачамі. Кірыл, штораз набліжаючыся да яго, казаў:

— Імем тых, што не вярнуліся з Волгі...

— ...Загінулі на Доне...

— ...Зложылі галовы за Одэрам...

Пад Цярэнцевымі нагамі ўсё хадуном хадзіла. Адвальваліся, падалі, здавалася, вышэй за хату, чорныя скібы, пругка білі яго пад самыя грудзі, на вачах разрасталіся да вялізнага крутога вала і хавалі пад сабою Арышчыну сцежку, цешчаў прылавак на станцыі, дарогу ў гарады каля сцюдзёнага мора, дзе дужа выгадна можна прадаць яблыкі... А ўжо яе ні на якой матацыклетцы не пераскочыш. І толькі за высокімі валамі, якія падступалі да самай сенажаці, перакочваліся цераз агароджу незабыўныя галасы братоў Сідара, Байбака...

Лямех, вырываючыся на завароце з зямлі, сляпіў вочы і нагадваў нейкі вялізны дыск, што зачапіў глыбіню, да якой так і не дабраўся Цярэнцій. А Кірыл усё араў. Брылём шапкі ён, здавалася, чапляў сонныя хмары, якія ціха плылі над Вішневам.

— Імем унукаў тваіх! — даляцела з канца поля.

Цярэнцій крыва ўсміхнуўся. Вочы яго зрабіліся глыбокія-глыбокія, бровы сышліся над пераноссем. Непаслухмянымі пальцамі ён дастаў дробку нарэзанага турэцкага тытуню, згарнуў цыгарку, закурыў. Потым неяк няўпэўнена пачаў зашпільваць пажарны пояс з пілкамі, нажамі і рознымі бляшанкамі, падцягнуў штаны.

— Брэшаш, куме Кірыл: усё будзе, як і было!

Кірыл не пачуў Цярэнцевых слоў. Ды гэта ўжо і не мела ніякага значэння. Цярэнцій вымавіў іх аднымі губамі. Хто-хто, а ён добра ведаў, што адрэзанае скібы яму ўжо ніколі не вярнуць.

З украінскай пераклаў Л. САЛАВЕЙ.

# ТУТ БОЙ КІПЕЎ...

**ЛЯ МАКЕТА МЕМАРЫЯЛА УШАЦКАЙ АПЕРАЦЫІ**

ЧЫСТЫ, бялюткі снег ляжыць сёння на гэтай высотцы... Вырвецца з-за недалёкага лесу вецер, узляціць на грэбень узгорка і закурыцца, затрапеча на сумётах ці то снежны пыл, ці то дзіўнае белае полымя...

Ціха-ціха шапаціць па невялікім полі пазёмка. І калі выпадзе такое імгненне, што раптам заціхне ўсё навокал, мроіцца ў яе шапаценні і далёкае працяглае «Ўра!», і ледзь чутны стогн, і хрыплыя воклічы рукапашнай....

Амаль трыццаць год назад на схіле гэтага пагорка, на полі, што недалёка ад вёсак Паперына і Новае Сяло, прарываліся з жалезнага кальца блакады 16 партызанскіх брыгад Полацка-Лепельскай партызанскай зоны.

Вясной 1944 года, прадчуваючы хуткае наступленне Савецкай Арміі, фашысты вырашылі пакончыць з партызанскай арміяй, якой камандаваў Ул. Лабанок.

Некалькі дывізій эсэсаўцаў, спецыяльныя карныя батальёны і зондэркаманды, артылерыю, авіяцыю, танкі сцягнулі яны для таго, каб узламаць, раздавіць партызанскую абарону, каб агнём і свінцом выпаліць «партызанскую заразу» з Ушаччыны. Амаль два месяцы сцягвалася кальцо блакады. Два месяцы вялі народныя мсціўцы кровапралітныя баі, выматваючы сілы ворагаў, адцягваючы на сябе ўсё новыя і новыя падраздзяленні гітлераўскіх войск.

Але сілы былі няроўныя. Нягледзячы на дапамогу Савецкай Арміі, якая падтрымлівала партыётаў авіяцыяй, суседзяў-партызан, якія намагаліся прабіцца на дапамогу Ушацкаму злучэнню з захаду, поўдню і поўначы, становішча блакіраваных брыгад рабілася ўсё больш цяжкім.

Тады камандаванне партызанскай арміі вырашыла ісці на прарыў. Гэта было дзёрзкае рашэнне, бо яшчэ ніколі за ўсю гісторыю Вялікай Айчыннай вайны супраць партызан не было сцягнута столькі войск і тэхнікі, яшчэ ніколі партызанам не даводзілася дзейнічаць у такой блізкасці да франтавой паласы.

Партызаны вырашылі прабівацца ў самым нечаканым напрамку — амаль у лоб двух моцных гарнізонаў.

Гэта была жудасная ноч!..

Прарваўшы вогненнае кальцо, партызанскія брыгады выходзілі з акружэння, выводзячы з сабой мірных жыхароў — старых, жанчын, дзяцей...

Летам 1974 года, у гадавіну славутага прарыву партызанскай арміі з блакады, на полі, якое было заліта крывёю народных мсціўцаў, паблізу вёсак Паперына і Новае Сяло ўзнімецца велічны помнік партызанам-героям, над стварэннем якога цяпер працуюць народныя мастакі Беларусі скульптары З. Азгур, А. Анікейчык і архітэктары, лаўрэаты Ленінскай прэміі Ю. Градаў і Л. Левін, народны архітэктар СССР Ул. Кароль.

Я сустрэўся з аўтарамі помніка ў майстэрні архітэктараў...

— Ідэя стварэння помніка, — сказаў З. Азгур, — нарадзілася ў час сустрэчы былых партызан на месцы прарыву. Уладзімір Елісеевіч Лабанок, былы камандзір партызанскага злучэння, які прысутнічаў на гэтай сустрэчы, прапанаваў нам з Уладзімірам Адамавічам Каралём падумаць над праектам помніка, які ўвекавечыў бы слаўны подзвіг партызан.

Мы запрасілі да работы над помнікам А. Анікейчыка, Л. Левіна, Ю. Градава. Праз некаторы час быў выпрацаваны праект, з якім мы ўсе былі згодныя. Трэба сказаць, што вельмі шмат зрабілі нашы малодшыя калегі Анатоль Анікейчык, Юрый Градаў і Леанід Левін. Яны параілі пераарыентаваць помнік, зрабілі эскізны варыянт асноўнага пластычнага элементу — фігуры партызана. Разам з імі вырашылі мы пасадзіць на былым полі бою і мемарыяльны дубовы гай, які будзе сімвалізаваць моц і непахіснасць кожнай з шасцаці брыгад партызанскай арміі.

— Увесь ансамбль, — уступае ў гаворку Ю. Градаў, — будзе пабудаваны такім чынам, што глядач як быццам пройдзе па тым шляху, па якім ішлі на штурм фашысцкіх гарнізонаў партызаны. Высокія каменныя сцены, звужаючыся, перакрываючы краягляд, падвядуць людзей да дзвюх стэл — нібы сімвала разарванага кальца блакады. Паміж стэламі будзе адкрывацца постаць партызана, што застыў у апошнім напружанні, у дынамічным руху. А далей — шырокая панарама на поле, на якім разгарнуўся бой, на лясы, што цямнеюць непадалёк, на дзве вёскі — іх штурмавалі партызаны, на невялічкую рачулку, якая, па ўспамінах удзельнікаў прарыву, была чырвоная ад крыві.

— Асноўны эмацыянальны акцэнт, — гаворыць А. Анікейчык, — зразумела, фігура партызана. Яна будзе размешчана крыху нечакана, спіной да гледача, які ўвойдзе на тэрыторыю мемарыяла, але гэта здаецца нам апраўданым, бо людзі ж будуць ісці па тым шляху, па тым «калідоры», які ён, партызан, прабіў сваімі грудзьмі. Зразумела, гэта патрабавала ад нас, скульптараў, знайсці такое пластычнае вырашэнне фігуры, пры якім яна чыталася б з усіх пунктаў.

Фігура партызана, нібы выхапленага з шэрагу атакуючых у момант апошняга парыву наперад, амаль навісае над мемарыяльным полем. У ёй і трагедыя, і боль, і рашучасць, і вялікае пачуццё самаахвярнасці ў імя перамогі, у імя жыцця тых тысяч людзей, якіх трэба выратаваць, вывесці з блакады.

— Працуючы над фігурай, — працягвае сваю думку А. Анікейчык, — мы намагаліся зрабіць яе сімвалам жыццесцвярджэння, бо ў самім прарыве, у тых пачуццях, якія вялі партызан на подзвіг, не было адчаю, безвыходнасці. Яны ішлі на смерць дзеля жыцця, дзеля таго, каб, вырваўшыся з кальца, зноў і зноў біць нямецкіх захопнікаў.

На полі ля вёсак Паперына і Новае Сяло былі пахаваны героі-партызаны, якія загінулі, прарываючы кальцо блакады. Цяпер тут стаіць невялікі абеліск, ляжаць пліты з імёнамі загінуўшых.

Брацкая магіла — яшчэ адзін элемент мемарыяльнага ансамбля. Сотні імёнаў, высечаных на камені, будуць сведчыць аб тым, што лёгкіх перамог не было, што за кожную з іх аплочана па самым высокім рахунку—жыццём і крывёй лепшых савецкіх людзей.

Помнік ушацкай аперацыі будзе размешчаны сярод шырокага абсягу палёў, лясоў, якія павінны ўвайсці ў агульны лад ансамбля. Архітэктары Ю. Градаў і Л. Левін маюць немалы вопыт выкарыстання ландшафту ў стварэнні буйных мемарыяльных комплексаў. Неаднаразова адзначалася крытыкай, што менавіта арганічная сувязь з наваколлем з'яўляецца адным з найбольш эмацыянальных фактараў уздзеяння на гледача ў папярэдняй рабоце архітэктараў — мемарыяльным комплексе ў Хатыні; арганічна «ўпісваецца» ў асяроддзе сталічнага сквера і помнік Янку Купалу, у стварэнні якога яны таксама ўдзельнічалі.

— Лес, у якім збіраліся ў кулак партызанскія злучэнні, — тлумачыць Л. Левін, — поле, па якім яны ішлі на штурм, невялікая рачулка, якую фарсіравалі, нават балотца, уздоўж якога прабіваліся наперад, мы намагаліся ўключыць у ансамбль як самастойныя фактары, якія будуць «працаваць» на агульнае ўражанне. Такое рашэнне здаецца нам правільным таму, што і балотца, і лес, і поле, хоць і маўклівыя, але сведкі тых слаўных падзей...

Мы стаім ля макета мемарыяла, які неўзабаве будзе ўзводзіцца, і яшчэ і яшчэ раз праходзім у думках па тым шляху, па якім з цягам часу пойдуць яго наведвальнікі, — з шашы, паміж дзвюх высокіх каменных сцен, туды, дзе ў разрыве стэлы вырастае фігура героя-партызана. Праходзім на мемарыяльнае поле, на якім над брацкай магілай шумяць дубы, азіраем шырокі разлог, які адкрываецца адсюль, і зноў, у каторы раз, углядаемся ў твар партызана.

Ён вельмі выразны, гэты твар. Знясілены цяжкімі баямі, якія працягваліся амаль два месяцы, змучаны голадам, бяссонніцай, ён усё ж такі застаецца тварам чалавека, які ўпэўнены ў сваёй перамозе, у перамозе сваёй справы.

Відаць, кожны, хто прыйдзе сюды аддаць даніну пашаны героям, будзе ўяўляць сабе яго, гэтага сімвалічнага партызана, па-свойму, але кожны знойдзе ў ім і нешта такое, што будзе блізкім менавіта яму, бо вобраз, які стварылі З. Азгур і А. Анікейчык, — збіральны, у ім увасобілася ўсё тое, чым дарагі для кожнага з нас вобраз народнага мсціўцы, героя-партызана.

І перад тым, як развітацца з аўтарамі мемарыяльнага помніка ўшацкім партызанам, задаю апошняе пытанне:

— Які вы мяркуеце выкарыстаць матэрыял?

Адказвае А. Анікейчык:

— Толькі вечны. Бронзу, камень... Подзвіг беларускіх партызан дастойны таго, каб пра яго памяталі праз стагоддзі!

**А. БЕЛАВУСАЎ.**

## КОНКУРС НА ЛЕПШЫ ПРАЕКТ МАНУМЕНТА МАЦІ-ПАТРЫЁТКІ

У адпаведнасці з пастановай Савета Міністраў БССР ад 16 кастрычніка 1972 г. Міністэрства культуры БССР аб'явіла адкрыты конкурс на стварэнне праекта-манумента ў горадзе Жодзіна ў гонар савецкай маці-патрыёткі Анастасіі Фамінічны Купрыянавай і яе дзяцей, чацвёра з якіх загінулі ў барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

Праект манумента ў Жодзіна павінен адлюстроўваць подзвіг савецкіх жанчын у будаўніцтве сацыялізму і абароне яго заваёў, у выхаванні самаадданых барацьбітоў за гонар, свабоду і незалежнасць нашай Радзімы.

Вынікі конкурсу будуць падведзены ў жніўні 1973 года. Праекты манумента павінны быць прадстаўлены аўтарамі журы конкурсу да 1 жніўня.

**УМОВЫ КОНКУРСУ**

**Праект манумента для разгляду журы неабходна прадставіць у наступным аб'ёме: мадэль манумента ў зададзеным маштабе, фрагмент скульптурнай кампазіцыі або фігура памерам 1 м; архітэктурныя чарцяжы: генплан, план участка, фасады, перспектыва; тлумачальная запіска з каштарысна-фінансавым разлікам.**

**(Праекты, прадстаўленыя на конкурс не ў поўным аб'ёме, разглядацца не будуць).**

**Кошт помніка не павінен перавышаць 150 тыс. рублёў.**

**Для пераможцаў конкурсу ўстаноўлены прэміі:**

*Адна першая прэмія—1.000 рублёў.*
*Адна другая прэмія—750 рублёў.*
*Адна трэцяя прэмія—500 рублёў.*

НАШЫ МАЙСТРЫ МАСТАЦТВА

# КАЛІ ЁСЦЬ ШТО СКАЗАЦЬ...



Мікалай Гуціеў... Вядомы графік, працаўнік кнігі. Колькі іх аформлена мастаком? Аформлена па-майстэрску, з фантазіяй, з адменным густам. Я бяру ў рукі казкі А. Пушкіна, «Трагедыі» В. Шэкспіра, «Амок» Я. Маўра, «Аповесць аб ясным Стахоры» Міколы Садковіча, кніжку-малютку вершаў Я. Купалы, «Вечары на хутары паблізу Дзіканькі» М. Гогаля, якія аформіў М. Гуціеў раней, бяру ў рукі і новыя яго кнігі, «сігналы», разглядаю макеты...

Любы жанр мастака — казкі. Імкнучыся акунуцца ў свет казачнай фантастыкі, ён ідзе за маленькім чытачом і разам з ім раскрывае вобразную структуру тэксту.

— Мікалай Цімафеевіч, у чым, на ваш погляд, галоўная задача мастака пры рабоце над дзіцячай кнігай?

— Наблізіць маленькага чытача да разумення мастацтва. Зацікавіць яго пытаннямі, якія ўзнікаюць пры вобразным успрыняцці свету. У дзіцячай кніжцы таленавіта выкананая ілюстрацыя можа навесці дзіця на правільнае разуменне твора, прабудзіць першую цікавасць да мастацтва. Выдатны мастак, «сааўтар» С. Маршака У. Лебедзеў гаварыў: «Многія мастакі, якія працуюць над дзіцячай кнігай, у гэтай рабоце вырашаюць тыя ж задачы, што стаяць перад імі ў іх мастацкай працы наогул... Мастацтва павінна быць для дзіцяці такім жа арэшкам, як і для дарослага, толькі трэба, каб у арэшка, прызначанага для дзіцяці, не была вельмі цвёрдая шкарлупіна».

Я праглядаю кніжку, якая толькі што выйшла ў свет, — беларускую народную казку «Цудоўная дудка». Пяць гадоў назад М. Гуціеў афармляў першае выданне гэтай кніжкі. Сёння ж, вярнуўшыся да яе зноў, мастак поўнасцю перапрацаваў «унутраны арганізм» афармлення, узбагаціў яго колерам, знайшоў больш цэласную эмацыянальна-вобразную і стылістычную завершанасць.

Каляровая дэкаратыўнасць ілюстрацый «Цудоўнай дудкі» бярэ свае вытокі ў беларускіх народных традыцыях, а ўнутраная самадысцыпліна і душэўнае напружанне павышаюць іх эмацыянальнасць. Гэтага не дасягнуць адной тэхнічнай дасканаласцю. Ілюстрацыі М. Гуціева не толькі перакладаюць на мову малюнка змест казкі, яны развіваюць і паглыбляюць змест, паэтызуюць, узбагачаюць яго.

Працу над кніжкай мастак нязменна пачынае са спробы ахапіць усю тэму, і толькі потым пераходзіць да дэталей, да прыватнасцей. Гэты метад дазваляе стварыць афармленне, якое будзе выглядаць адзіным мастацкім творам, цэласным увасабленнем творчай задумы. Так, мастак шмат і доўга працаваў над аблічкам кніжкі А. Якімовіча «Каваль Вярнідуб», шукаючы яе архітэктоніку, прыводзячы ў суладдзе рытм і маштаб ілюстрацый, шрыфт, макет...

Не апошнюю ролю ў мастацкім афармленні казкі адыграў і матэрыял. Метад «накладання» акварэлі на тлустую пастэль, які мастак упершыню ўжыў у ілюстрацыях да беларускай казкі «Ільюша, Іванаў сын» амаль 10 гадоў назад, дае чароўную, празрыстую мяккасць фактуры.

— Якія вашы прынцыпы ўзаемасувязі мастацтва ілюстрацыі з тэкстам літаратурнага твора?

— Адзін з іх — дакладнае перайманне таго, што адлюстравана ў кнізе пісьменніка. Ён вызначаны неабходнасцю ўвесці чытача ў дух, лад эпохі. Ім я карыстаўся, калі працаваў, напрыклад, над ілюстрацыямі да кнігі «Люба Лук'янская» К. Чорнага. Але калі я хачу перадаць падтэкст кніжкі або пашырыць тэкст дадатковымі элементамі, як у «Цудоўнай дудцы», я намагаюся пабудаваць ілюстрацыі на асацыяцыях. А ў цэлым ілюстра-



Ансамбль для дзяўчат. Аўтар І. Булгакава.

ПАКАЗ калекцыі мод, створанай Рэспубліканскім домам мадэлей да міжнароднай выстаўкі 1972 года ў Загрэбе (Югаславія), выклікаў у мінчан жывую цікавасць. Калекцыя, якую складае каля 140 мадэлей, — вынік карпатлівай працы вялікага калектыву мастакоў і мастацтвазнаўцаў, канструктараў і краўцоў Дома мадэлей.

...Пад мелодыю беларускай народнай песні з'яўляюцца прыгожыя дзяўчаты ў доўгіх ільняных сукенках з накінутымі на плечы вялікімі хусткамі-«шаліноўкамі». Уласна з гэтых мадэлей, створаных І. Булгакавай, і пачынаецца паказ групы вырабаў з ільну. Беларускія ільняныя вырабы даўно ўжо заваявалі прызнанне на міжнародных выстаўках. Сукенкі, касцюмы, фартушкі, купоны, што ствараюцца на прадпрыемствах мастацкай прамысловасці БССР, экспартуюцца ў розныя краіны свету. А некаторыя японскія фірмы набылі нават патэнты на выраб нашых сукенак з ільну. Таму зразумелая тая ўвага, якую праявілі і ў гэтай калекцыі беларускія мадэльеры да прыгожага, практычнага, пругкага, параўнальна таннага матэрыялу.

Мадэлі жаночых кароткіх сукенак, створаныя Р. Красновай з ільну, —

# І СУЧАСНАЕ, І ТРАДЫЦЫЙНАЕ...

традыцыйныя па сілуэце, простыя па формах. Выразнасць ім надае стрыманы аплікацыйны дэкор, які арганічна ўваходзіць у агульны кампазіцыйны лад мадэлі, стварае ўражанне святочнасці і ўзнёсласці.

Логікай задумы, мастацкай выразнасцю, закончанасцю вызначаюцца ільняныя касцюмы для падлеткаў і юнакоў, якія прапануе гледачу Ул. Булгакаў, аўтар усіх мужчынскіх мадэлей калекцыі. З тонкім густам, памайстэрску мастак падкрэслівае і выяўляе прыродныя якасці ільну і натуральнай замшы ў маладзёжных камплектах з курткамі. Мужчынскія ансамблі, створаныя ў спартыўна-элегантным стылі, — гучныя па колеры, насычаныя па каларыце.

Вялікая і разнастайная група мадэлей створана са стракатых набіўных паркаляў і сацінаў вытворчасці Баранавіцкага баваўнянага камбіната. І. Булгакава, Т. Няфёдава, Р. Краснова знайшлі новыя, часам нечаканыя варыянты спалучэння ў адной мадэлі розных па малюнку, але блізкіх па фактуры і колеры тканін-кампаньёнаў. Модная форма паркалёвых сукенак утвараецца выразнай гульнёй складак, зборак, зашчыпаў, разнастайнай формай рукавоў і каўняроў, якія надаюць сукенкам мажорнасць і выклікаюць пачуцці весялосці.

На жаль, тканіны, вырабленыя на Баранавіцкім баваўняным камбінаце, ні характарам малюнкаў, ні каларытам не адрозніваюцца ад шырока вядомых традыцыйных іванаўскіх паркаляў «мільфлёраў». Відаць, характар выкарыстаных мадэльерамі тканін пазбавіў і мадэлі, увогуле выкананыя на высокім прафесійным узроўні, рысаў адметнасці і самабытнасці. Мусіць,



Камплекты для юнакоў са «спілка» натуральнай замшы. Аўтар Ул. Булгакаў.

для таго, каб ствараць цікавыя і арыгінальныя тканіны, мастакам Баранавіцкага баваўнянага камбіната варта звярнуцца да вывучэння традыцыйных узораў старажытнай беларускай крашаніны (набойкі), да народнай разьбы па дрэву, што сустракаецца на прасніцах і ліштвах, да фарбаў і малюнка распісных куфраў, рэчаў хатняга начыння. Усё гэта можа служыць асновай малюнка набіўных тканін.

Завяршаецца дэманстрацыя калекцыі паказам ансамбляў па матывах беларускага фальклору, і гэта адразу ж уносіць у атмасферу паказу павышанае эмацыянальна-вобразнае гучанне, святочнасць. Уся гэта група мадэлей створана Інай і Уладзімірам Булгакавымі з сялянскіх даматканых дываноў-радзюжак, поўных той унутранай цеплыні і сувязі з чалавекам, што ляжаць у аснове лепшых узораў народнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Беларусі. У жаночых сукенках і летніх паліто відно імкненне мадэльераў традыцыі народнага мастацтва ўвасобіць у арганічнай сувязі з навейшымі патрабаваннямі сучаснай моды. Захоўваючы ў асноўных рысах модны сілуэт і некаторыя модныя элементы канструкцыі (форму рукавоў, каўнераў і інш.) мастакі стварылі эмацыянальныя, цікавыя і арыгінальныя мадэлі. Вобразная выразнасць сукенак і паліто дасягаецца яркасцю беларускіх тканін, рытмам насычаных традыцыйных каляровых спалучэнняў, а таксама ўмелым выкарыстаннем фактуры матэрыялу, ужываннем тканых і вязаных паясоў і галаўных павязак. Пераасэнсоўваючы сучасную еўрапейскую моду, мастакі імкнуцца ў той жа час пазбавіцца эклектыкі і стылізатарства нацыянальных форм касцюма. Мастакі паказваюць, якім чынам традыцыі народнага мастацтва могуць уваходзіць у сучаснае жыццё, наколькі відавочны працэс гарманічнага і натуральнага «ўрастання» яго ў сучасны быт.

Аднак, нягледзячы на поспех калекцыі і ў Маскве, і за мяжой, у ёй усё ж адчуваецца павярхоўнасць разумення мастакамі традыцый беларускай народнай вопраткі, яе асноўных прынцыпаў пабудовы і мастацкага аздаблення. Сведчанне гэтаму — скарыстанне толькі аднаго прыёму, уласна трохнітова-тканых паласатых тканін, што прывяло да некаторай аднастайнасці ў асартыменце мадэлей, бязлікасці ільняных, асабліва вітальных сукенак, менавіта ў якіх і павінна б найбольш востра гучаць фальклорная тэматыка беларускай моды, да нецікавасці многіх вячэрніх і святочных убораў.

Прычына хібаў загрэбскай калекцыі — беднасць сабранага фальклорнага матэрыялу ў творчых папках мастакоў Беларускага дома мадэлей, у адсутнасці этнаграфічнага музея і глыбокіх навуковых даследаванняў у галіне беларускага народнага касцюма.

У цэлым жа калекцыя ўспрымаецца цэласна і цікава. Адчуваецца высокі прафесіяналізм беларускіх мадэльераў. Пры ўсім інтэрнацыяналізме сучаснай моды мастакам удалося паказаць часцінку таго, што нясе ў сучасную моду беларуская культура.

**Міхась РАМАНЮК.**

---

цыя заўсёды ў нейкай меры пошук падтэксту. Выбар падтэксту выяўляе індывідуальнасць мастака, яго асабісты вопыт і думку. Таму і нараджаюцца розныя ілюстрацыі на адну і тую ж тэму...

Ілюстраваць — ці азначае гэта растварыць сябе ў вобразным свеце пісьменніка? Не, мастак павінен заставацца самім сабою. Вядома, што кнігу кожны чытае па-свойму. Зразумець глыбінную задуму пісьменніка і ў той жа час растлумачыць яе выяўленчымі сродкамі, можа толькі чулы, патрабавальны майстар.

Дзве кнігі займаюць у творчасці М. Гуціева асаблівае месца. Гэта кніга Ф. Шлыка і П. Шопа «У імя Радзімы», мастацкае афармленне якой складаецца з дакументальных замалёвак, выкананых у гады Вялікай Айчыннай партызанам М. Гуціевым, і зборнік партызанскага фальклору «Лясныя песні», ілюстраваны мастаком на падставе тых жа замалёвак, кампазіцый, сатырычных плакатаў ваеннай пары.

Разглядаю альбом з партызанскімі накідамі (у майстэрні іх не так ужо шмат — большасць зараз захоўваецца ў Музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны). Накіды памечаны 1943 годам. Партрэты камбрыга Ул. Лабанка, камандзіра атрада К. Яцко, самага маладога партызана брыгады Юры Смалякова, інструктара Віцебскага падпольнага абкома камсамола Валі Радкевіч, разведчыка Нічыпара Журко, камандзіра аддзялення дыверсійнага атрада Аляксандра Цыкіна. Фота з сатырычных лістовак-плакатаў тых гадоў...

— Спачатку гэтыя плакаты я маляваў ад рукі, а потым у нас з'явілася друкарня. Я пачаў рэзаць плакаты на ліноліуме, які сарвалі з падлогі ў адным разгромленым нямецкім штабе. «Паляванне» за ліноліумам было мэтай спецыяльнай аперацыі.

Усе, відаць, добра памятаюць станковую серыю лінагравюр М. Гуціева аб партызанах Беларусі, якая экспанавалася на многіх выстаўках. У яе ўваходзілі кампазіцыі з партрэтамі Ул. Лабанка, Ф. Дуброўскага, Д. Караленкі, своеасаблівы групавы партрэт партызан Б. Званкова, М. Дзідэнкі, В. Віткі, В. Нікіфарава, Н. Журко, эпізоды партызанскіх засад. У гэтых лістах мастак імкнуўся прааналізаваць падзеі свайго партызанскага юнацтва, выявіць галоўнае ў іх, паказаць канкрэтных людзей, герояў-партызан.

Але змест гравюр — глыбей і шырэй таго, што непасрэдна паказана аўтарам. Пластычнае апавяданне М. Гуціева аб партызанах гучыць як роздум аб часе і аб сабе, аб сябрах-таварышах, загінуўшых і жывых.

Я пытаюся ў Мікалая Цімафеевіча аб яго далейшых задумах у гэтай серыі.

— Цяпер працую над трыма лістамі, якія з'явяцца працягам графічнай аповесці аб партызанах. Вось камандзір злучэння Ул. Лабанок перад вылетам на самалёце да месца бою — быў у нас такі самалёт, замацаваны за брыгадай. А гэта — дыверсія на элеватары ў пасёлку Чашнікі. Трэці эскіз — «З гарматы — па цягніку». Такі факт быў, напэўна, толькі ў нас у брыгадзе... Увесь тэматычны цыкл будзе своеасаблівымі гісторыка-дакументальнымі старонкамі, аб'яднанымі задумаю, тэмай, нарэшце, маёй памяццю...

Што сцвярджае мастак, што адстойвае, з чым змагаецца, чым захапляецца, у імя чаго ўзяўся за разец або аловак, пяро ці пэндзаль — вось галоўныя пытанні, якія паўстаюць заўсёды, калі глядзіш творы мастацтва. М. Гуціеў дае ясны і пэўны адказ. У гэтай пэўнасці — зарука далейшага паглыблення яго творчасці.

М. Гуціеву ёсць што ўспомніць, ёсць што расказаць людзям.

**Б. КРЭПАК.**

---

# ПРЫНЯТЫ Ў САЮЗ АРХІТЭКТАРАЎ



**БЕРАЗЕНЬ Леанід Ляонцьевіч.** Нарадзіўся ў 1940 годзе ў Магілёве. Закончыў Беларускі політэхнічны інстытут. Працуе ў інстытуце Белкамунпраект. Распрацаваў праекты будынкаў Фрунзенскага раённага аддзела міліцыі, тэхнікума савецкага гандлю ў Мінску, кінатэатра і санаторыя «Беларусь», праекты рэканструкцыі медыцынскіх і навуковых установ у Мінску.



**ВАРАКСІН Мікалай Уладзіміравіч.** Нарадзіўся ў 1933 годзе ў Ленінградзе. Закончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт. Кандыдат гістарычных навук. Працуе дэканам архітэктурнага факультэта Брэсцкага інжынерна-будаўнічага інстытута. Надрукаваў шэраг навуковых работ па гісторыі архітэктуры Беларусі і спецыфіцы развіцця архітэктуры як мастацтва.



**ВАСІЛЕВІЧ Іван Ігнатавіч.** Нарадзіўся ў 1941 годзе ў Мядзельскім раёне. Закончыў Беларускі політэхнічны інстытут. Працуе ў інстытуце Мінскпраект. Па яго праектах пабудаваны будынкі інстытутаў Белгіправодгас і Сельгастэхпраект, жылыя дамы, будынкі культурна-бытавога прызначэння па Ракаўскай шашы ў Мінску.



**ДОЎГІХ Ніна Рыгораўна.** Нарадзілася ў 1936 годзе ў Варонежскай вобласці. Закончыла Беларускі політэхнічны інстытут. Працуе ў інстытуце Белкамунпраект. Аўтар праектаў электрастанцый у Вільнюсе, Магілёве, Куйбышаве, Гродна, праектаў рэканструкцыі цеплаэлектрацэнтралей у радзе гарадоў Беларусі, праектаў школ, бальніц, спартыўных лагераў.



**ДЗЯМЕНЦЬЕВА Людміла Васільеўна.** Нарадзілася ў 1945 годзе ў Краснаярскім краі. Закончыла Беларускі політэхнічны інстытут. Працуе ў інстытуце Белкамунпраект. Аўтар праектаў спальнага корпуса і генплана перспектыўнага развіцця Лепельскага санаторыя, сталовай і спартыўнай залы ў Мінску, жылога дома з магазінам у Мазыры, інтэр'ераў грамадскіх будынкаў у Смаленску.



**ЖЛАБО Мікалай Фёдаравіч.** Нарадзіўся ў 1935 годзе ў Гомелі. Закончыў Беларускі політэхнічны інстытут. Працуе ў інстытуце Белкамунпраект. Спецыялізуецца ў галіне ландшафтнай архітэктуры. Удзельнічаў у распрацоўцы праектаў міжзаводскага парку ў Мінску, саду імя 50-годдзя Кастрычніка ў Віцебску, генеральнага плана парку ля Кургана Славы на 21-м кіламетры Маскоўскай шашы.



**КАЛНІНЬШ Альберт Пятровіч.** Нарадзіўся ў 1928 годзе ў Мінску. Закончыў Беларускі політэхнічны інстытут. Працуе ў інстытуце Белніігіпрасельбуд. Па яго праектах забудоўваюцца многія сельскія пасёлкі ў Беларусі і Казахстане. Прымаў удзел у праектаванні эксперыментальна-паказальных саўгасаў «Леніна» і «Чырвоны бор».



**КАЛЮЖНЫ Віктар Цімафеевіч.** Нарадзіўся ў 1941 годзе ў Алма-Аце. Закончыў Новасібірскі інжынерна-будаўнічы інстытут. Працуе ў Гомельскім аддзяленні інстытута Белгіпрагандаль. Распрацаваў праекты планіроўкі грамадска-гандлёвага цэнтра і шэрагу мікрараёнаў у Новасібірску, гандлёвага цэнтра і рэстарана «Слава» ў Гомелі, кааператыўнага гандлёвага будынка ў Рэчыцы.



**КОТАЎ Валерый Генадзевіч.** Нарадзіўся ў 1940 годзе ў Рыбінску. Закончыў Беларускі політэхнічны інстытут. Працуе ў інстытуце Белкамунпраект. Распрацаваў праекты спартыўнага комплексу завода электрахаладзільнікаў у Мінску, клуба з залай на 500 месц у г. п. Свіслач, будынка Дома творчасці пісьменнікаў пад Мінскам, будынка Беларускага тэлеграфнага агенцтва.

# ФІЛАРМАНІСТЫ ЕДУЦЬ У РАЁН

Афішы, афішы... Іх бачыш, калі праязджаеш па гарадах і вёсках, калі бываеш у дамах культуры, у клубах, навучальных установах, у калгасах і саўгасах. З прыемнасцю чытаеш імёны вядомых артыстаў, назвы буйнейшых мастацкіх калектываў рэспублікі. Філармонія Беларусі праводзіць вялікую работу па прапагандзе музычнай культуры, мастацкага слова, харэаграфіі, арыгінальных жанраў сярод самых шырокіх колаў слухачоў рэспублікі і за яе межамі. Тысячы канцэртаў, лекцый, творчых сустрэч вядучых майстроў мастацтва прыносяць грамадскасці задавальненне глыбокай ідэйнасцю, яркай мастацкай формай.

**Аднак часам бывае, што асобныя канцэрты, або лекцыі-канцэрты не адпавядаюць узрослым запатрабаванням нашых слухачоў. Адказнасць за гэта нясуць не толькі філармонія, але і тыя ўстановы культуры рэспублікі, якія недастаткова ўважліва ставяцца да арганізацыйнага боку такіх творчых мерапрыемстваў.**

Зразумела, немагчыма расказаць на газетных старонках пра ўсе выступленні ўсіх калектываў. Але, бывае, два ці тры канцэрты могуць засведчыць пэўнае становішча.

## ПАБЛІЗУ АД СТАЛІЦЫ

Па прапанове дырэктара-распараджальніка лектарыйнага аддзела Беларускай дзяржаўнай філармоніі І. Мысліўчыка было вырашана пазнаёміцца з дзейнасцю адной канцэртна-лектарыйнай брыгады. Яна абслугоўвала ў студзені некаторыя раёны Мінскай вобласці. У 17 гадзін 30 мінут у вестыбюлі філармоніі збіраюцца ўдзельнікі: А. Парэцкі — лектар, ён жа піяніст-акампаніятар, спевакі Ганна Крачко (лірычнае сапрана), Сяргей Градзюшкоў (тэнар), Барыс Казанцаў (барытон) і скрыпач Анатоль Эмдзін. Адміністратар брыгады — Святлана Петрашкевіч.

Маленькі «рафік» хутка адольвае адлегласць ад Мінска да Радашковіч — і перад намі раённы Дом культуры. Але тут чамусьці ў разгар зімы рамонт памяшкання. Брыгада накіроўваецца ў Радашковіцкую сярэднюю школу № 3. Сказаць, што тут нас чакалі — нельга. Хоць афіша паведамляла аб пачатку лекцыі-канцэрта а 19-й гадзіне, толькі каля 20-й у школьнай зале сабралася некалькі дзесяткаў вучняў старэйшых класаў разам з настаўнікам спеваў і загадчыкам Дома культуры. Пытаюся: дзе сталыя наведвальнікі? У Радашковічах жа праводзіцца цыкл лекцый-канцэртаў. Чую даволі дзіўны адказ: «...Мусіць, адзначаюць стары Новы год...»

Такім чынам, лекцыя пачалася ў амаль пустой зале. Гэта, безумоўна, не спрыяла натхненню яе ўдзельнікаў. Да таго ж піяніна было зусім не настроена...

Аднак артыстам, як і лектару, трэба выконваць свой абавязак.

Тэма лекцыі вельмі адказная: «Беларуская музычная культура». На маю думку, лектар павінен быў даць слухачам сціслы і ў той жа час змястоўны агляд дасягненняў музычнай культуры рэспублікі. Можна было раскрыць характэр і асаблівасці буйнейшых твораў нацыянальнага опернага і балетнага жанраў, сімфанічнай музыкі. А якое багацце — здабыткі песеннай і народнаінструментальнай творчасці! Дзейнасць мастацкіх калектываў Беларусі, творчасць удзельнікаў мастацкай самадзейнасці — таксама невычэрпная скарбніца. А калі гаварыць пра канцэртную частку, то слухачы спадзяваліся пачуць найбольш яркія, характэрныя ўзоры беларускай музыкі, каб яны эмацыянальна, вобразна падмацоўвалі думкі лектара А. Парэцкага.

**На жаль, нічога гэтага не атрымалася. Лекцыйная частка (дарэчы, заняткі праводзіліся па праграме універсітэта музычнай культуры, як пра гэта абвяшчалася з самага пачатку) была блытанай, не ахапіла нават мінімальнага кола пытанняў узнятай тэмы. Высветлілася, што лектар, не кажучы пра слабаватае веданне праблем, аб якіх расказваў, не валодае элементарным уменнем весці размову з аўдыторыяй. Яго не слухалі ў зале, перашэптваліся...**

**Канцэртная частка была выпадковай па рэпертуару. Ні адзін выканаўца не пазнаёміў слухачоў з фрагментамі опернай ці балетнай музыкі, найбольш характэрнымі ўзорамі камернай творчасці. Чамусьці не чуваць было найбольш яркіх рамансаў беларускіх кампазітараў, папулярных у краіне песень. Затое выконваліся нумары, якія не маюць амаль ніякага дачынення да тэмы лекцыі. На першы план, напрыклад, была выстаўлена фантазія для скрыпкі беларускага кампазітара Д. Камінскага на тэмы песень ленінградца А. Пятрова.**

**Творам, якія выконваліся, лектар не даваў патрэбных каментарыяў. Частка з іх прагучала і на пасрэдным мастацкім узроўні. Відаць, перад выездам неабходных рэпетыцый не праводзілася. Хто што помніў, тое і выконваў...**

Элементы выпадковасці могуць мець месца ў рабоце любога мастацкага калектыву. Каб набыць больш яснае ўражанне аб дзейнасці брыгады пад кіраўніцтвам А. Парэцкага, я выправілася праз некалькі дзён у Чырвонаслабодскі дом культуры Салігорскага раёна. Там таксама абвешчана была прадугледжаная планам лекцыя-канцэрт. На гэты раз заняткі праводзіліся на тэму «Музыка і літаратура».

...У Чырвонаслабодскім доме культуры ёсць усе ўмовы для правядзення заняткаў. Глядзельная зала на 300 месцаў, добрая сцэнічная пляцоўка, акустыка — усё адпавядае сучасным патрабаванням. Сабралася тут значна больш слухачоў, чым у Радашковічах. Але чамусьці ніхто не зняў вопратку, а некаторыя нават «забыліся» зняць шапкі, хоць у зале было цёпла. «Забылася», відаць, і дырэкцыя Дома культуры, што піяніна трэба настроіць і не дазваляць, каб яно стала своеасаблівым сховішчам выпадковых рэчаў. Ніхто не паклапаціўся аб крэслах. Артысты вымушаны былі шукаць іх па ўсіх пакоях...

**Нарэшце, пачалася лекцыя. На канкрэтных прыкладах А. Парэцкі расказаў пра сувязь музычнага мастацтва і літаратуры. Ён закрануў пытанні праграмнасці кампазітарскіх твораў, не маючых пісьменніцкіх тэкстаў, растлумачыў, як у такіх выпадках аўтар выкарыстоўвае паэтычны ці празаічны сюжэт пры напісанні аднайменнага музычнага твора (напрыклад, «Антар» — сімфанічная сюіта М. Рымскага-Корсакава, уверцюра-фантазія «Рамэа і Джульета» П. Чайкоўскага і да т. п.), як музыка надае крылы вершаванаму слову або літаратурнаму вобразу.**

**Аднак лектар чамусьці не прывёў ніводнага прыкладу сувязі літаратуры і музыкі менавіта ў беларускай кампазітарскай творчасці. І на гэты раз разглядалася вельмі абмежаванае кола твораў класічнай спадчыны і сучасных, якія сталі аб'ектам музычнага тлумачэння.**

Больш высокай, чым у папярэдняй лекцыі-канцэрце, была якасць музычнага выканання. Удала іграў на фартэпіяна сам лектар А. Парэцкі фрагменты з «Антара» М. Рымскага-Корсакава, «Рамеа і Джульеты» П. Чайкоўскага па В. Шэкспіру. Цёпла ўспрымалі слухачы выступленні спявачкі Тамары Ткачовай («Хабанера» Ж. Бізэ і раманс «Ноч» А. Рубінштэйна), Барыса Казанцава (асобныя нумары з вакальнага цыкла «Прыгожая мельнічыха» Ф. Шуберта). Віртуозна выканаў скрыпач Анатоль Эмдзін «Танец з шаблямі» з балета «Гаянэ» А. Хачатурана. Пранікнёна прагучалі ў яго раманс Д. Шастаковіча з музыкі да кінафільма «Авадзень» і «Вальс Наташы» з оперы «Вайна і мір» С. Пракоф'ева па раману Л. Талстога. У выкананні спевака Сяргея Градзюшкова прагучаў твор Г. Свірыдава «Пад'язджаючы пад Іжоры» (словы А. Пушкіна), раманс Назара з оперы «Сям'я Тараса» Д. Кабалеўскага па вядомаму раману Б. Гарбатава «Нязкораныя».

Сустрэча артыстаў філармоніі са слухачамі ў Чырвонай Слабадзе пакінула лепшае ўражанне, чым у Радашковічах. Іх праграма і рэпертуар былі больш змястоўныя. Праўда, і тут як лектар, так і артысты не скарысталі ўсіх магчымасцей, не данеслі да слухачоў універсітэта культуры тое, што прадугледжана праграмай. Чамусьці аказаліся «ў загоне» вакальныя ансамблі, пры дапамозе якіх можна было б ажывіць заняткі.

**Ніхто не збіраецца рабіць абагульненні на падставе тых недахопаў, з якімі давялося сустрэцца пры знаёмстве з дзейнасцю брыгады А. Парэцкага. Не варта і пераносіць дакоры на ўсе лектарыйныя групы Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Але знаёмства адбылося па прапанове яе кіраўніцтва і, значыць, дае падставу меркаваць, што гэтая брыгада лічыцца сярод лепшых...**

Тым часам нас чакаў яшчэ адзін маршрут яшчэ з адным філарманічным калектывам.

## УСПАМІН... ЦІ НАДОЎГА!

...У калгаснікаў Маладзечанскага раёна — свята: у раёне падводзяцца вынікі дасягненняў мінулага года. І вось у доме культуры калгаса «Светлы шлях» адбываецца ўручэнне ўзнагарод і каштоўных падарункаў перадавікам сельскагаспадарчай вытворчасці. Гучаць прамовы, словы ўдзячнасці, духавы аркестр. Афіцыйная частка скончана. Абвяшчаецца, што пасля перапынку адбудзецца вялікі канцэрт артыстаў Беларускай дзяржаўнай філармоніі...

Разам з удзельнікамі сходу сяджу ў зале. Выступаюць артысты ансамбля «Беларускі сувенір». Выконваюцца вершы, песні, гумарэскі, танцы, інструментальныя п'есы, акрабатычныя нумары. Спачатку здаецца, што канцэрт не выкліча асаблівых нараканняў: у праграме ў пэўнай прапорцыі прадстаўлены творы розных жанраў, ёсць выразныя па ідэйнай накіраванасці, выкананыя на досыць здавальняючым узроўні нумары.

Але ж пачнем з таго, што праграме канцэрта дадзена назва «Беларускі сувенір». Як вядома, сувенір гэта тое, што дораць людзям на доўгі ўспамін. Такім чынам, «Сувенір» па сэнсе — назва, якая да многага абавязвае. Зместам праграмы павінны быць творы, якія маюць сапраўды высокую ідэйна-мастацкую якасць, творы, якія выконваюцца на сапраўды высокім творчым узроўні.

**Але канцэртны сувенір артыстаў нашай філармоніі, па задуме яго стваральнікаў, не толькі памятны падарунак: ён павінен быць нацыянальным па характары, арыгінальным. Вось з гэтым крытэрыем і паспрабуем прааналізаваць, што было падорана артыстамі перадавікам сельскай гаспадаркі Маладзечаншчыны на «доўгі ўспамін» аб знамянальным для іх дні.**

Па сутнасці прамыя адносіны да ўрачыстасці дня ў канцэрце меў толькі адзін твор — верш «Гаспадарам зямлі» С. Грахоўскага ў прафесійна ўпэўненым выкананні Ганны Рыжковай. Узбагаціла праграму таксама выступленне В. Кучынскага (дарэчы, ён не належыць да складу ансамбля «Беларускі сувенір» і быў запрошаны на гэты канцэрт персанальна), які выдатна выканаў творы Д. Тухманава «Расія», І. Лучанка «Верасы», М. Фрадкіна «За таго хлопца». Прынесла радасць слухачам і песня «Белая Русь» Юрыя Семянякі, што прагучала ў канцэрце ў выкананні Вольгі Шутавай. Астатнія ж творы праграмы «Беларускага сувеніра» ўключаны ў яе зусім выпадкова і нічога «сувенірнага» не маюць. Напрыклад, «Ой, мая ж галава» М. Наско, «Гэй, музыканты» Л. Лядавай, «Мне без валёнак бяда» Р. Панамарэнкі і г. д. Мусіць, тое, што танцавальная група выконвае харэаграфічную замалёўку «Беларускі сувенір», і падказала аўтарам праграмы абагульніць яе такой назвай. Праўда, тыя ж танцоры выконваюць таксама харэаграфічны нумар «Рускі сувенір». Значыць, мелася на мэце наогул падараваць аўдыторыі яркія канцэртныя нумары — як жа тады з назвай канцэртнай праграмы?

Зразумела, назва — гэта не «жалезны каркас». Хай будзе канцэртная праграма разнастайная. Добра, што геаграфічныя рамкі яе не абмяжоўваюцца штучна. Ды толькі чакаеш, што складальнікі і пастаноўшчыкі праграмы не будуць збіраць, як у мех, лёгкія для выканання і не надта ж якасныя нумары. Ці ж абавязкова ў «сувенірным выданні» паўтараць тое, што часта гучыць па радыё, запісана на пласцінкі, паказваецца па тэлебачанні?

**Пэўныя закіды трэба зрабіць і па якасці выканання большасці нумароў. Калі я паглядзела на праграмны лісток канцэрта для калгаса «Светлы шлях», дык убачыла на ім візы галоўнага рэжысёра Беларускай дзяржаўнай філармоніі, загадчыка літаратурнай часткі, загадчыка музычнай часткі, зацверджаныя подпісам мастацкага кіраўніка ўстановы. Гэта наводзіць на думку, што праграма канцэрта «Беларускі сувенір» была праслухана і абмеркавана названымі аўтарытэтнымі таварышамі. А яны маглі б заўважыць, напрыклад, што ў выкананні В. Шутавай нумароў пад эстрадны інструментальны ансамбль не ўсё па-мастацку якасна: адчуваецца недастатковы вопыт спявачкі ў выступленнях з такім калектывам, ды і характар твораў не адпавядае якасці іх інструментоўкі. Мы ведаем спявачку па эстрадных канцэртах, і песні, якія звычайна выконвае В. Шутава ў народнай манеры пад баян, гучаць і ўспрымаюцца лепш, чым пры суправаджэнні канцэртнага ансамбля.**

**Інструменталісты акампаніравалі і астатнім спевакам па-дзяжурнаму: адчуваецца розная ступень падрыхтоўкі ўдзельнікаў. І выхады артыстаў ансамбля да спевакоў не мізансцэніраваны, яны яшчэ не зусім навучыліся трымаць сябе на сцэне.**

**Наўрад ці творчая індывідуальнасць спевака У. Зямірава адпавядае тым творам выразна маладзёжнага плана, якія яму давялося выканаць у канцэрце... Трымацца ў «амплуа» закаханага юнака спеваку яўна цяжка...**

Можна зрабіць і іншыя заўвагі ансамблю «Беларускі сувенір». Аднак і прыведзеных, мабыць, хапае, каб насцярожыцца і выказаць калектыву сур'ёзныя прэтэнзіі...

Вядома, прафесійны ўзровень большасці салістаў і калектываў Беларускай дзяржаўнай філармоніі забяспечвае высокую якасць канцэртаў, у тым ліку і лекцый-канцэртаў.

Нават калі мы дазволім сабе думаць, што літаральна ўсе выезды філарманічных брыгад у раёны адбываюцца так, што заслугоўваюць ацэнкі «5», што толькі два канцэрты, аб якіх тут ішла гаворка, ацэнкі вышэй «2» не заслугоўваюць, то і тады кіраўніцтва гэтай канцэртнай установы мае прычыну для трывогі.

«Даравальных» выпадковасцей у мастацтве не бывае. І глядач, адчуўшы горыч і расчараванне на адным з вечароў, будзе потым шукаць сабе які-небудзь іншы занятак. Пасрэднасць на сцэне адштурхоўвае і нараджае абыякавасць да такіх «мерапрыемстваў».

Так, сённяшні наш слухач — рабочы, калгаснік, служачы — эстэтычна вырас і лепш разумее ролю музычнага мастацтва. З радасцю і задавальненнем сустракаецца ён з калектывамі, створанымі Р. Шырмай і Г. Цітовічам, з Беларускім дзяржаўным сімфанічным аркестрам пад кіраўніцтвам Ю. Яфімава і Дзяржаўным народным аркестрам БССР пад кіраўніцтвам І. Жыновіча, з Мінскім камерным аркестрам пад кіраўніцтвам Ю. Цырука, з папулярнымі эстраднымі брыгадамі В. Вуячыча, Н. Багуслаўскай, М. Шышкіна, лектарыйнымі групамі... Лепшыя творы музычнай культуры дзякуючы філармоніі робяцца здабыткам тысяч і тысяч прыхільнікаў музыкі. Аб гэтым сведчаць шматлікія ўдзячныя словы ў яе адрас.

Хай бы наша канцэртная ўстанова радавала ўсіх гледачоў і заўсёды па-сапраўднаму высокаідэйнымі, змястоўнымі, цікавымі, добра прадуманымі і дасканалымі па выкананні канцэртамі. І каб кожны канцэрт рабіўся радаснай прэм'ерай, быў для слухачоў сувенірам не толькі па назве на праграмнай старонцы. Тады ён ніколі не будзе адно толькі чарговым «мерапрыемствам» дзеля парадных справаздач філармоніі.

Л. КРУШЫНСКАЯ,
спец. карэспандэнт «Літаратуры і мастацтва».

*У рэдакцыю паступіла пісьмо ад студэнткі Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага І. Мацюховай, у якім яна піша: «...Сярод мастацкіх калектываў, адзначаных прэміяй Ленінскага камсамола Беларусі за 1972 год — віцебскі ансамбль «Маладосць». У нумары вашай газеты за 19 студзеня 1973 года апублікаваны шэраг здымкаў з выступленняў гэтага калектыву. Пажадана на старонках «Літаратуры і мастацтва» прачытаць таксама артыкул пра гэты цікавы, відаць, калектыў...».*

*Рэдакцыя звярнулася да музыказнаўцы І. Нісневіча з просьбай адказаць чытачу.*

# ШЛЯХ ДА ВЫШЫНЯЎ

КАЛІ ВАМ хочацца пабачыць цудоўную маленькую харэаграфічную паэму пра чысціню пачуццяў, жаночы гонар, нараджэнне кахання — наведайце канцэрт народнага ансамбля песні і танца «Маладосць», калі Лілія Іванова і Анатоль Буглай разам з дзявочай танцавальнай групай выконваюць «Жураўліную казку». Вас, як і астатніх гледачоў, ахопіць магія сапраўднага мастацтва — уладара ўсіх струн чалавечага сэрца. А як узрушвае непаўторнае характво «Купалінкі», «Лебядзіначкі», «Пастаўскіх карункаў», іншых карагодаў з рэпертуару танцораў «Маладосці», удаласць, сакавіты гумар, віртуознасць і яркасць малюнкаў у «Крупчанскай кадрылі», «Вяселлі на Віцебшчыне», «Прыдзвінскай рапсодыі», «Кавалях», «Стайкаўскай ураджайнай», дзе ў спаборніцтва талентаў уступаюць і хор, і аркестр ансамбля!

Так, меў рацыю глядач М. Даўговіч, калі пасля канцэрта віцяблян на Рыжскім узбярэжжы, прыслаў у ансамбль «Маладосць» наступныя радкі захаплення іх выдатным майстэрствам: «Я ветэран Вялікай Айчыннай вайны, персанальны пенсіянер, у час вашага канцэрта стаў маладзейшым. Выступленне захапіла сваёй экспрэсіяй, жыццярадаснасцю. Жадаю вам вялікіх творчых поспехаў. Да пабачэння на Рыжскім узбярэжжы». І поспех гэтага канцэрта — не шчаслівы выпадак у творчай гісторыі выхаванцаў мастацкай самадзейнасці Віцебскага палаца культуры Упраўлення бытавога абслугоўвання насельніцтва.

**З 1960 года—часу нараджэння «Маладосці» — калектыў даў больш за тысячу канцэртаў. Яго майстэрства брала «ў палон» аматараў мастацтва ў Маскве, на ВДНГ і на заводах, у палацах культуры Мінска, у Рызе і Пскове, Смаленску і Клайпедзе, Ліепаі і розных гарадах Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі, дзе праходзілі шматдзённыя гастролі віцебскіх артыстаў. Адны толькі падарункі, вымпелы, ганаровыя граматы, адрасы, дыпломы розных устаноў, прадпрыемстваў, калгасаў, гарадоў краіны і ГДР, якімі ўзнагароджаны ансамбль «Маладосць», каб зрабіць іх экспазіцыю для шырокай грамадскасці, патрабуюць вялікага пакоя і многіх стэндаў і вітрын. «Маладосць» з'яўляецца таксама ўладальнікам і самых вышэйшых адзнак дасягненняў у мастацтве — звання лаўрэата Усесаюзнага фестывалю, прысвечанага 50-годдзю Вялікага Кастрычніка, лаўрэата Усесаюзных фестываляў да 50-годдзя ВЛКСМ, прафесійных саюзаў і пераможцы Усесаюзнага агляду культасветустаноў, прысвечанага 100-годдзю з дня нараджэння У. І. Леніна, а таксама конкурсу Усесаюзнага тэлебачання. Што датычыцца поспехаў «Маладосці» на рэспубліканскіх аглядах і іншых творчых спаборніцтвах, дык тут цяжка нават нагадаць усе яе перамогі — стольні іх.**

Калі ж гаварыць пра багацце рэпертуару калектыву, дык прыйдзецца назваць звыш 200 песень, да 180 танцаў, 25 вакальна-харэаграфічных кампазіцый, дзесяткі сольна-інструментальных і аркестравых нумароў, вершы і фрагменты з паэм, якія аб'ядноўваюць праграмы ансамбля ў адзінае тэматычнае мастацкае відовішча.

Ужо адны гэтыя лічбы даюць падставы захапляцца творчымі маштабамі «Маладосці». Але за лічбамі крыецца яшчэ і выдатная якасць большасці нумароў, якія выконваюцца ансамблем. І калі пры адборы вакальных або інструментальных твораў мастацкае кіраўніцтва калектыву карыстаецца ў ў асноўным яркімі ўзорамі класічнай і сучаснай кампазітарскай музыкі, здабыткамі народнай творчасці, што вытрымалі выпрабаванне часам, дык харэаграфічны бок праграмы «Маладосці» — гэта вынік сапраўды даследчай і наватарскай працы ансамбля. Сцэнічная распрацоўка нацыянальнага харэаграфічнага фальклору знаходзіцца тут на адметнай вышыні. Нагадаем, акрамя названых вышэй нумароў з праграм калектыву, таксама і «Полечку-віцябляначку», карагод «Дубок», танцавальную сцэну «У сваты», мужчынскую сюіту «Дудары», дзе, як слушна адзначае мастацтвазнаўца Ю. Чурко, слоўнікавы запас сродкаў выразнасці, багацце лексікі цалкам падначалены чысціні нацыянальнай структуры танцаў.

Хто ж тыя чараўнікі, што дораць людзям такую радасць сваім натхнёным мастацтвам? Зразумела, назваць у кароткіх нататках імёны ўсіх 110 удзельнікаў народнага ансамбля песні і танца «Маладосць» немагчыма. Але як не адзначыць на дзіва музычную спявачку, сапраўднага майстра выканання лірычнай песні Галіну Калініну, яе сябровак Марыю Ператрухіну, Зінаіду Бондараву, Святлану Сапоненка, без якіх не праходзіць ніводны канцэрт «Маладосці». Ганарыцца калектыў майстэрствам такіх выканаўцаў, як Інэса Серыкава, Ганна Ліўшыц, Алёна Ціханава, Эрнст Лятохін, Міхась Мартыноўскі, Руслан Белавусаў, Уладзімір Дойлін, якія пасля напружанай працы на заводах гадзіннікавых дэталяў, заточных станкоў, радыёдэталей, у вагонным дэпо, шпіталі, школах, кожны вечар прыходзяць у ансамбль, каб зноў і зноў адшліфоўваць кожны рух, прыгажосць малюнкаў, паварот мелодыі, дыкцыйную яснасць у сваіх непаўторных нумарах у розных праграмах «Маладосці».

**Паўтару зноў, тут названы імёны толькі лепшых з лепшых удзельнікаў славутага віцебскага ансамбля, а заслугоўваюць добрага слова і астатнія таленавітыя ансамблісты «Маладосці». Разам з тым трэба заўважыць, што вялікі плён іх высакароднай дзейнасці ў мастацтве неадрыўны ад вычлючна мэтанакіраванай і адухоўленай работы, якую праводзяць кіраўнікі калектыву з першых дзён яго нараджэння. Спачатку гэта былі прафесійна дасведчаны музыкант і таленавіты кампазітар С. Рабунскі і энтузіяст самадзейнага мастацтва, малады хормайстар Г. Сакалова. Потым да іх далучыўся такі буйны спецыяліст-харэограф, як заслужаны дзеяч культуры БССР, былы балетмайстар ансамбля песні і танца Чырванасцяжнай Беларускай ваеннай акругі І. Серыкаў. Яго ўплыў на творчае жыццё «Маладосці» аказаўся выключна каштоўным, і ўжо шэраг гадоў І. Серыкаў з'яўляецца мастацкім кіраўніком «Маладосці». А хормайстар тут Л. Пашанцаў, кіраўнік аркестра — А. Смірноў.**

**Іван Арцёмавіч з'яўляецца таксама аўтарам і пастаноўшчыкам большасці вакальна-харэаграфічных кампазіцый і асобных танцаў, што адлюстроўваюць багаты духоўны свет сучаснай Віцебшчыны.**

ТАК, сапраўды добрае мастацкае кіраўніцтва мае ансамбль «Маладосць». Віншуючы ўсіх яго ўдзельнікаў і кіраўнікоў з прысуджэннем калектыву ганаровага звання лаўрэата прэміі Ленінскага камсамола Беларусі, мы верым, што плённую работу па эстэтычнаму выхаванню моладзі спевакі і танцоры з Віцебскага палаца культуры будуць працягваць і надалей. Шлях да новых вышыняў творчасці заўсёды будзе іх вабіць. І яны пераможуць яшчэ шмат разоў.

**І. НІСНЕВІЧ.**



**За тры гады сцэнічнай дзейнасці драматычны калектыў Светлагорскага палаца культуры энергетыкаў заваяваў вялікую папулярнасць у раёне. З поспехам прайшло ўжо больш 50 выступленняў калектыву. Кіруе ім загадчыца палітыка-асветнага аддзела палаца культуры Ада Якаўлеўна Кузьмянкова.**

**На здымку — акцёры тэатра на чарговай рэпетыцыі.**

Фота А. НІКАЛАЕВА. (БЕЛТА).

# «ПАКУЛЬ ПАТРЭБЕН ЛЮДЗЯМ...»

У гэты дзень трыста рабочых і служачых Беларускага аўтазавода атрымалі запрашальныя білеты. Змест іх быў такі: «Паважаны таварыш! Праўленне палаца культуры запрашае Вас на творчы вечар старэйшага работніка палаца культуры Аляксандра Данілавіча Самусевіча». Пад партрэтам юбіляра стаяла лічба «60».

Трыццаць пяць год на педагагічнай рабоце А. Самусевіч. У дні вайны быў на фронце, у авіяцыі. У 1944 годзе пасля цяжкай кантузіі вяртаецца ў родную Беларусь, настаўнічае на Случчыне. А калі ў Жодзіна пабудавалі Беларускі аўтазавод, пачаў працаваць у палацы культуры. Спачатку кіраваў лялечным тэатрам мініяцюр, потым узначаліў дзіцячы сектар.

Дзеці — народ дапытлівы, і гэту іх дапытлівасць Аляксандр Данілавіч стараецца задаволіць. Стварыў каля дзесятка гурткоў. Два з іх — «Юны ўмелец» і авіямадэльны — узначаліў сам, для астатніх падабраў умелых кіраўнікоў з аўтазавода. Арганізаваў лялечны тэатр для дзяцей.

Пры дзіцячым сектары арганізаваўся клуб «Юны тэхнік». Увойдзеш у памяшканне, вочы разбягаюцца. Здаецца, апынуўся ў казачным церамку. Аляксандр Данілавіч націскае на кнопку, і церамок напаўняецца музыкай.

— Гэту мадэль зрабіў я сам, — гаворыць кіраўнік. — А вось работы Каці Гульцяй і Толі Санітарава.

Ён паказвае радыёпрыёмнікі на паўправадніках «Рамонак» і «Космас», зробленыя гуртакоўцамі, мадэль «Цырк у лесе». Націскаеш на кнопку, і цырк ажывае: гойдаюцца на арэлях мядзведзі, апісвае дугу зайчык, дзяўбе дрэва дзяцел...

Увагу прыцягвае незвычайны гадзіннік. Яго цыферблат разлічаны адразу на суткі — 24 гадзіны. Гадзіннік паказвае дату, дзень, месяц, год. Працуе ад электрычнай сеткі. На цыферблаце літары: САД.

— Чыя вытворчасць? — пытаюся ў настаўніка.

— Мая, — адказвае ён і тлумачыць: — САД — гэта мае ініцыялы: Самусевіч Аляксандр Данілавіч.

Кожны дзень запоўнены ў кіраўніка нястомнымі пошукамі новага.

— Марым стварыць мадэлі аўтамабіляў, якія выпускае Беларускі аўтазавод. А яшчэ будзем працаваць над канструкцыямі новых прыбораў, радыёпрыёмнікаў, якія прымяняліся б ў самалётах, на суднах.

Аляксандр Данілавіч паказвае работы гуртакоўцаў, выпаленыя на дрэве: «Ленін у маленстве», «Ленін і дзеці», «Чапаеў», «Флагман Кастрычніка» («Аўрора»).

— Гэтыя работы экспанаваліся на выстаўках у Аўстрыі, Канадзе, Балгарыі, а аўтары іх узнагароджаны дыпломамі. Я і сам крыху малюю...

Аляксандру Данілавічу больш за шэсцьдзесят. Час ужо і адпачываць, адчуваецца стома, баляць старыя раны. Але няма калі думаць пра спакой.

— Пакуль я патрэбен людзям, не магу ісці на пенсію...

**А. ПЯТРОВІЧ.**

# ТВОЙ ПАМОЧНІК—КНІГА

*Скрыль-Слабадская сельская бібліятэка Пухавіцкага раёна абслугоўвае хлебаробаў калгаса «Іскра». У гэтым калгасе нямала людзей, чыя працоўная слава даўно пераступіла межы раёна — І. Клімовіч, знатная даярка, М. Клюндзюк, старшыня калгаса і іншыя. І яшчэ адзін чалавек, пра якога душэўна гавораць працаўнікі сяла,— Зінаіда Іванаўна Мазанік, сельскі бібліятэкар. Зінаіда Іванаўна — сябра і дарадца многіх жыхароў калгаса. Літаратурныя вечары, выстаўкі, дастаўка кніг проста ў поле, на рабочыя месцы, выступленні па мясцовым радыё — усё ў яе падначалена аднаму: прывіць сяльчанам любоў да кнігі. Многа робіць яна, каб выхаваць у моладзі павагу да сельскагаспадарчай працы.*

*Для ўсіх катэгорый чытачоў у бібліятэцы складзены групавыя планы чытання: «Што чытаць паляводу», «Што чытаць механізатару», «Што чытаць даярцы», «Для вас, спецыялісты сельскай гаспадаркі», «Малады чалавек і закон».*

*Праводзяцца агляды літаратуры. Афармлены кніжныя выстаўкі «Вывучай літаратуру па сваёй прафесіі», «Новае ў навуцы пра сельскую гаспадарку».*

*Важны ўчастак работы бібліятэкі — прапаганда сельскагаспадарчых ведаў і перадавога вопыту.*

*І таму так часта прыходзяць сюды спецыялісты сельскай гаспадаркі і радавыя хлебаробы. Тут можна заўсёды знайсці літаратуру аб укараненні новай тэхнікі і перадавога вопыту ў сельскагаспадарчую вытворчасць, прачытаць пра вопыт перадавых механізатараў, пра майстроў высокіх ураджаяў.*

**А. ПЕРАПЯЛІЦА.**

## ЗАЙМАЮЦЦА КІРАЎНІКІ АГІТБРЫГАД

**У Гродна закончылі работу курсы, на якіх займаліся 25 рэжысёраў агітбрыгад раённых, сельскіх дамоў культуры і клубаў абласцей.**

**За час заняткаў яны падрыхтавалі праграмы: «Амерыка без заўтрашняга дня» і «Ім славу гучную пяем» — аб перадавіках сельскай гаспадаркі Прынёманскага краю.**

**Ул. ДЗЁМІН.**



# САМАБЫТНАСЦЬ

*ДА 80-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ МАКСІМА ГАРЭЦКАГА*

**М**АКСІМ ГАРЭЦКІ ўвайшоў у літаратуру як прадаўжальнік дэмакратычных традыцый Я. Купалы, Я. Коласа, Зм. Бядулі і іншых пісьменнікаў. Ён унёс у літаратуру сваё, адметнае — як у выбары тэмы, так і ў яе мастацкім увасабленні.

Пісьменніку ішоў толькі шаснаццаты год, калі ён атрымаў права вучыць сялянскіх дзяцей. Але ён хацеў прадоўжыць адукацыю і ў 1909 годзе паступіў у Горацкае землямерна-агранамічнае вучылішча. З першых твораў М. Гарэцкага, дзе шмат аўтабіяграфічнага, можна ўявіць, якой вялікай цягай да ведаў, да культуры вызначаецца гэты этап яго жыцця.

Пачаткам творчага шляху пісьменніка, калі не браць пад увагу невялікія нататкі ў «Нашай ніве» ў 1912 годзе, трэба лічыць яго апавяданне «У лазні», змешчанае ў той жа газеце 25 студзеня 1913 года. Першы ўжо твор М. Гарэцкага сведчыць аб спробе ўзняцца да філасофскага разумення жыцця і яго сэнсу. Пісьменніка цікавіла складаная праблема ўзаемаразумення інтэлігенцыі і народа. Яна знайшла сваё далейшае развіццё ў першым зборніку апавяданняў «Рунь» (1914 г.).

Імкненне да абагульнення, жаданне выйсці з рамак апавядання і стварыць аповесць з развітым сюжэтам было характэрна для М. Гарэцкага ўжо ў першы перыяд яго творчасці. Невыпадкова, што ў 1914 годзе з'яўляецца яго драматызаваная аповесць «Антон», твор складаны, у якім цікава спалучаецца празаічны і драматычны пачатак. Перапляценне розных жанравых форм, выключная ўвага пісьменніка да драматычнага канфлікту, да буйнага характару, які раскрываецца ў складаных жыццёвых акалічнасцях, — усё гэта вяло да стварэння вялікага эпічнага палатна, якім з'явіцца раман «Віленскія камунары». Але яшчэ да пачатку работы над раманам (1930—1931 гг.) пройдзе больш дзесяці гадоў напружанай творчай працы і цяжкіх жыццёвых выпрабаванняў.

Першая імперыялістычная вайна з'явілася этапам не толькі ў жыцці пісьменніка, але і ў яго творчасці. Будучы непасрэдным яе ўдзельнікам, Гарэцкі сутыкнуўся са з'явай, якая супярэчыць самой прыродзе чалавека. Антываеннай тэме прысвячае пісьменнік сваю дакументальна-мастацкую кнігу «На імперыялістычнай вайне» і апавяданні «Літоўскі хутарок», «Генерал», «На этапе». Пісьменнік пранік глыбока ў прыроду і сутнасць вайны як грамадскага і сацыяльнага зла. Выступаючы супраць крывавай бойні, М. Гарэцкі інтуітыўна прадчувае будучыя бітвы за вызваленне чалавека.

У 1916 годзе пісьменнік пачынае работу над раманам «Крыж», але не заканчвае яго. Аповесць «За што?» («Ціхая плынь») была створана Гарэцкім на рубяжы дзвюх эпох. Прыступіў ён да працы над аповесцю ў канцы 1917 года, а закончыў ужо ў савецкі перыяд. Асобным выданнем яна выйшла ў 1930 годзе. Мяккая і лірычная па характары і сумная па змесце, аповесць расказвае пра вясковага хлапчука Хомку, жыццё якога бессэнсоўна абрываецца на вайне. «За што?» — трагічна гучыць фінал аповесці.

Вывучаючы творчасць М. Гарэцкага, здзіўляешся той настойлівай паслядоўнасці, з якой пісьменнік вырашаў сваю творчую задачу: стварэнне рамана. У 1926 годзе выйшла аповесць «А ў чым яго крыўда», у аснову якой леглі апавяданні, напісаныя яшчэ да рэвалюцыі.

Кастрычніцкая рэвалюцыя застала М. Гарэцкага ў Смаленску, дзе ён супрацоўнічаў у газеце «Известия Смоленского Совета». Пісьменнік адразу ж актыўна ўключаецца ў грамадскую працу. Разумеючы значэнне мовы для развіцця нацыянальнай культуры, Гарэцкі пачынае складанне руска-беларускага і беларуска-рускага слоўнікаў, якія вытрымалі некалькі выданняў.

Неўзабаве М. Гарэцкага запрасілі працаваць у бальшавіцкую газету «Звязда». Пісьменнік пераязджае спачатку ў Мінск, а затым ў Вільна. Польская акупацыя на некалькі гадоў адарвала Гарэцкага ад роднай зямлі. Але і тут ён працягвае пісаць: супрацоўнічае ў прагрэсіўных газетах, друкуе свае апавяданні і публіцыстычныя нататкі. Выходзяць два выданні яго «Гісторыі беларускай літаратуры» (1920—1922 гг.).

Праследаванне польскімі уладамі, арышт, турма, высылка ў Латвію—так складвалася жыццё пісьменніка ў гэтыя цяжкія гады.

І толькі вяртанне ў 1923 годзе на радзіму, у Савецкую Беларусь, зноў дало яму магчымасць жыць і працаваць у поўную сілу. Шматгранная дзейнасць М. Гарэцкага гэтага перыяду цалкам накіравана на развіццё нацыянальнай культуры беларускага народа. Пісьменнік чытае лекцыі на рабфаку Беларускага універсітэта, у Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі, апрацоўвае фальклорныя запісы («Народныя песні з мелодыямі», 1928), дапрацоўвае «Гісторыю беларускай літаратуры» (трэцяе выданне выйшла ў 1924 г.), робіць першую спробу напісаць гісторыю літаратурнай арганізацыі «Маладняк» («Маладняк» за 5 гадоў», 1928), перакладае лепшыя творы рускай савецкай літаратуры («Разгром» А. Фадзеева, апавяданні М. Горкага і інш.).

Але як бы высока ні ацэньвалася ўся дзейнасць гэтага чалавека, у гісторыю М. Гарэцкі ўвайшоў перш за ўсё як «мастак вялікага і самабытнага таленту, не падобнага ні на чый іншы ў беларускай літаратуры» (М. Лужанін). М. Гарэцкі, будучы сучаснікам глыбокіх і складаных працэсаў і змен у грамадстве, не ўсё зразумеў правільна і не пазбег некаторых памылак у сваіх ацэнках.

Памёр пісьменнік у сакавіку 1939 года.

Раман «Віленскія камунары», апублікаваны толькі пасля смерці пісьменніка, увабраў у сябе ўсе жыццёвыя ўражанні і творчыя пошукі пісьменніка. Ён ахоплівае вялікі гістарычны перыяд, ад прыгоннага права да перамогі ідэй Кастрычніка. Дакументальнасць падзей, якія адбываюцца ў рамане, дазваляе назваць яго летапісам двух народаў, беларускага і літоўскага. Стрыманая, крыху сухаватая проза М. Гарэцкага заўсёды была насычана вялікім ідэйным зместам, які і з'явіўся рухаючай сілай апавядання.

«Віленскія камунары» і незакончаная «Камароўская хроніка» пашырылі наша ўяўленне аб шляхах развіцця беларускай прозы 30-х гадоў. Першы раман ужо выдадзены двойчы на рускай, на ўкраінскай і літоўскай мовах.

Творчасць пісьменніка заняла трывалае месца ў нашай літаратуры.

**Э. ЗОЛАВА,**
навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Я. Купалы АН БССР.

*ДА СТАГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Ф. І. ШАЛЯПІНА*



# ЗАХОЎВАЕЦЦА Ў МІНСКІМ АРХІВЕ

*Шаляпін. Гэтае імя ўваскрашае слаўныя старонкі магутнага рускага опернага мастацтва.*

*Нядаўна ў Дзяржаўным архіве фотафонакінадакументаў БССР выяўлена дваццаць невядомых і малавядомых шаляпінскіх здымкаў.*

*Як апынуліся яны менавіта ў Мінску, пакуль невядома. Магчыма, хто-небудзь з мінчан пабываў пасля вайны за мяжой, набыў там гэтыя здымкі, а ўжо ад яго яны трапілі на захаванне ў наш архіў.*

*Паўтараю, здымкі ўсе замежныя. Самыя раннія адносяцца да 1926 года. Мы бачым артыста з жонкай у Н'ю-Йорку ў дзень 50-годдзя артыста. А вось яшчэ адзін сямейны здымак, ён датаваны больш познім часам — 1935 годам і зроблены ў Аўстрыі. Фёдар Іванавіч зняты з усёй сваёй шматлікай сям'ёй.*

*Вялікую каштоўнасць уяўляюць здымкі спевака са славутай рускай балерынай Аннай Паўлавай і вядомым польскім спеваком Янам Кепурам.*

*Шаляпіна цягнула да простых людзей, маладосць яго прайшла не ў арэоле славы, а ў штодзённай фізічнай працы. І Фёдар Іванавіч заўсёды шукаў сустрэч з працоўнымі людзьмі. Вось ён на ферме, сярод рабочых, на жаль, не ўстаноўлена дзе і калі гэта было. На другім здымку — Шаляпін за абедзенным сталом з рабочымі.*

*Цяжкая хвароба надоўга прыкавала артыста да пасцелі. Серыя здымкаў зроблена менавіта ў гэты перыяд. Асабліва цікавы адзін з іх: Фёдар Іванавіч з медыцынскімі сёстрамі. І, нарэшце, шэраг здымкаў — сумнага характару: пахаванне вялікага рускага артыста ў Парыжы ў 1938 годзе.*

**Яфім САДОЎСКІ.**

**Прапануем увазе чытача два малавядомыя здымкі Шаляпіна.**



# НАШ ЛІТОЎСКІ СЯБРА

*ПАМЯЦІ ОНЫ МІЦЮТЭ*

Тэлеграф прынёс з Вільнюса сумную вестку: памерла Она Міцютэ, вядомая літоўская паэтэса, даўні сябра, перакладчык і папулярызатар беларускай літаратуры ў Літве.

Она Міцютэ нарадзілася ў 1909 годзе ў Вільні. Там жа з 1930 года на старонках прагрэсіўных выданняў пачалі друкавацца яе вершы, апавяданні, артыкулы. Будучы студэнткай Віленскага універсітэта, яна актыўна ўдзельнічала ў грамадскім жыцці, у сумесных беларуска-літоўскіх вечарах.

Цяжкому жыццю літоўскага і беларускага сялянства Віленшчыны былі прысвечаны вершы, аб'яднаныя ў першым зборніку Оны Міцютэ «Агеньчыкі на балоце» (1938). Тады ж на старонках літоўскага друку сталі з'яўляцца першыя яе пераклады з беларускай мовы. У перакладзе паэтэсы былі надрукаваны вершы Максіма Танка, М. Васілька, М. Машары і інш. У сваю чаргу М. Танк пераклаў на беларускую мову верш Оны Міцютэ «Роднаму месту».

У гады фашысцкай акупацыі Она Міцютэ напісала па-беларуску п'есу-казку для дзяцей «Чароўная скрыначка», у якой выказала цвёрдую ўпэўненасць, што ўрэшце рэшт светлыя сілы, Сонейка, вызваленае са скрыначкі, развеюць цемру, пакараюць несправядлівасць...

У пасляваенныя гады О. Міцютэ працавала ў Інстытуце мовы і літаратуры АН Літоўскай ССР. Адзін за адным выходзяць яе зборнікі вершаў для дзяцей, пераклады з беларускай і польскай моў, навуковыя артыкулы. Адзін з іх (надрукаваны ў газеце «Літаратура ір мянас» 25 мая 1957 года) быў прысвечаны творчасці Максіма Багдановіча.

...Здаецца, ці так даўно мы сядзелі разам з Онай Міцютэ за яе гасцінным сталом. Яна з хваляваннем расказвала аб сваіх сустрэчах з вядомымі дзеячамі беларускай літаратуры і мастацтва, марыла перакласці на літоўскую мову анталогію беларускіх вершаў, прысвечаных Вільнюсу, Літве. На развітанне падпісала свой апошні зборнік «Вясенні букет». Не думалася тады, што гэта сустрэча будзе апошняй, бо гаспадыня была ў расквіце творчых сіл і надзей.

Няма Оны Міцютэ. Але засталася тая добрая справа, якую яна рабіла дзеля збліжэння і ўзаемаўзбагачэння братніх беларускай і літоўскай літаратур. Значыць, застанецца пасля яе і добрая, светлая памяць.

**Адам МАЛЬДЗІС.**




*АВОХЦІ МНЕ!*

Савось АВОСЬ

# ЯК У ГЕНІІ ПРАБІЦЦА?

*РЭПАРТАЖ З КАЛЯ-АЛІМПА — ПА ПРОСЬБЕ «ЛІМа»*

**Колькі вёснаў, зім і летаў
Членам
Секцыі паэтаў
Ходзіць паэтычны леў.
Для Пегаса мае хлеў.
Член прафкома,
Член саюза,
Знае,
Як Літфонд патузаць.
Проста ўсё ідзе,
Як быццам.
Проста ўсё.
Але патайна
Загрудкі бярэ пытанне:
Як
у геніі
прабіцца!!
Не ў свае не сядзеш сані.
А ў павазе,
А ў пашане
Ходзяць класікі жывыя ж.
Тут ад зайздрасці завыеш!
Выпускай па мікратому
І не саступай нікому.
Сам лічы,
Што ты ўжо геній.
Хай зайздросціць!
Тым не меней,
Бы ў глыбінцы аўтакрама,
Цягнецца
самарэклама.
Як ты ля тэлеэкрана
Рана й вечарам старанна
Прынцыповасці паборнік,
Рэцэнзуй уласны зборнік!
Ахнуць бы
Прымусіць свет,
А не ўдасца на літполі
Свой пакінуць
Вечны след —
Хоць бы наслядзіць уволю!**

**Падыход шукай асобы,
Не драбні сваёй асобы!
Нос угору,
Горды віцязь,
Крытыка не зможа выцяць!
Як прывыкнеш да авацый,
Модна фатаграфавацца
Навучыся тэрмінова:
Выгляд скажа больш,
Чым слова!
Маеш гонкі рост
І пыху,
Стань за класікам паціху,
Набяры паветра ў грудзі,
На дзве галавы аж
Будзеш
Ты за класіка вышэй!
Класік
Хай маўчыць цішэй!
Паэтэс у нас не шмат.
Паэтэсам —
Першы рад.
Рады быць у першым радзе:
Колькі таленту ў пагля́дзе!
Госць у хату —
Пад рукою
Фота:
«Шолахаў са мною...
Гэта Міршакар на пляжы...»
Славы цяжкая паклажа!
Кожны сам сабе не вораг.
Выпускаюць зборы твораў
Класікі —
Пішы прадмовы.
Ход канём найадмысловы!
І вядома, слынны бард
Любіць рэзацца ў більярд.
Ходзіць бард,
Як нейкі Пій,
Ты — заплеччу:
Крэйдзі кій,
Падганяй шары да лузы —
Ты ж, пакуль што,—
Служка Музы.**

**Як асвоіш
Прэферанс,
Дык падвоіш
Смелы шанс.
Слухай хатнія шаптушкі —
Ёсць жа ў геніяў дачушкі.
А дачушкі —
Не сыны,
Не прадоўжаць род яны!
Будзь заўсёды начаку,
Ёсць дачка —
Бяры дачку!
Мецьмеш дачку,
Потым дачу
І заслужаную ўдачу.
Станеш здольным зяцем,
Татам
І найпэўней кандыдатам:
Як чарга паменее —
Кандыдат у геніі!
Ты празаік
Ці паэт,—
Трэба фінскі кабінет!
Як і мэблевая мода,
Зменлівая літпагода!
Для лячэбнай фізкультуры
У саюзе зала ёсць,
Дык рабі з сябе фігуру,
Тлушч зганяй,
Пабольшвай злосць.
Тут любую ўбачыш сцэнку,
Лезуць важныя на сценку
Не ад злосці —
Ад вяльмосці,
Маладзяць жывот і косці.
Гэта шведская сцяна
У саюзе не адна!
З класікамі так не ўжыцца,
Хоць асвойвай джыу-джыцу
Ці ўжывай прыём класічны
Каркаломнай барацьбы,
Толькі быў бы шок таксічны,
Злыдзень не ўставаў абы!
Не драмі, не апрасцей,
Бегай у саюз часцей,
Там старанна слухай, нюхай,
Хто не ў духу,
Хто пад мухай...**

**...Як жа
ў геніі
прабіцца!
Трэніруй свой кожны біцэпс!**

*А ТЫ АДКУЛЕЧКА, ПРЫЯЦЕЛЬ?*

Рыгор ЛАЗУРКІН

## ЗБОРНІК

Я піў з аўтамата ваду, як раптам нехта крануў мяне за плячо:

— Змітрок, я... я выдаў... зборнік!

Я спачатку нават не зразумеў сэнсу гэтых простых слоў, але потым да мяне дайшло... Я кінуўся абдымаць свайго сябра, аматара-літаратара, цалаваць яго, не звяртаючы ўвагі на прахожых, выказваць большую нават радасць, чым сам аўтар.

— Ай, Пятро, ай, малайчына, — у захапленні ўсклікваў я.—Дай жа, дай ты мне аўто...

Вядома, я прасіў у яго не аўтобус і не «Жыгулі», а аўтограф, і мой сябра, аматар-літаратар, правільна зразумеў мяне.

— Калі ласка, Змітрок! — сказаў ён, крыху аддыхаўшыся пасля нашых скокаў. Дастаўшы з партфеля новенькую кніжку і напісаўшы некалькі слоў на тытульным лісце, аматар-літаратар шырокім жэстам працягнуў мне яе.

Прымаючы падарунак, я кінуў позірк на назву і з расчараваннем прачытаў: «Зборнік практыкаванняў і задач па хіміі».

*НІ ДАЦЬ — НІ ЎЗЯЦЬ*




*ГУМАРЭСКА*

Ішлі здымкі фільма «Каханне карнета». Аўтар сцэнарыя Вальдэмар Галушка ні на крок не адыходзіў ад рэжысёра і млеў ад шчасця: ажывалі выпакутаваныя вобразы.

Але раптам актрыса Элеанора Бенядзіктаўна адмовілася здымацца ў ролі графіні.

— Гэта не маё амплуа! — махала яна веерам перад носам рэжысёра. — Хачу іграць гімназістку...

Элеаноры Бенядзіктаўне было далёка за сорак, але ці ж мае гэта прынцыповае значэнне ў наш час пры гэткіх дзівосах касметыкі! (О, як нам хочацца часам вярнуць сабе маладосць хоць на гадзіну!)

Што ж, перастаноўка была зроблена. Тым больш, што Элеанора Бенядзіктаўна мела магчымасць упльіваць на рэжысёра не толькі як актрыса, але і як... жонка. На гэтым не скончылася. Старую графіню адмовіліся іграць усе актрысы.

І тады рэжысёр, прыцiснуўшы да сцяны сцэнарыста, стаў даводзіць яму, што фільм павінен быць сучасны, што трэба ў ім паставіць перш за ўсё праблему моладзі, і таму ўсе персанажы грэба тэрмінова «амаладзіць». Увесь сцэнарый трэба перагледзець, дапрацаваць, сёе-тое праявіць, вызначыць і г. д...

Што было рабіць маладому сцэнарысту?

Пасля трох бяссонных начэй ён прынёс на студыю дапрацаваны сцэнарый. Але актрыса Элеанора Бенядзіктаўна знайшла, што яе новая роля, хоць і неблагая, але занадта ўжо кароткая, і па сваёй жаночай логіцы, пераставіўшы ўсё з ног на галаву, стала запэўніваць рэжысёра, што гэтую перастаноўку ён зрабіў выключна дзеля таго, каб даць магчымасць маладой актрысе— сваёй каханцы — выявіць сябе. Сцэна, якая адбылася пасля гэтай размовы, была яўна не запланавана сцэнарыем...

І рэжысёр, цяжка ўздыхнуўшы, зноў прыцiснуў маладога сцэнарыста да сцяны і стаў даводзіць яму арыгінальнасць новага варыянта сцэнарыя, калі ў ім застанецца толькі адна гераіня...

Пасля гэтай размовы сцэнарыст злёг у бальніцу, у псіханеўралагічнае аддзяленне. Праз месяц адтуль перадалі новы варыянт сцэнарыя, у якім галоўную ролю павінна была выконваць... лясная разбойніца-сава.



**— Гэты незадаволены наведвальнік думае, што я яго не бачу. А я з яго ўжо цэлую гадзіну вачэй не спускаю!..**

Мал. Г. МІКЛАШЭЎСКАГА.



**Вы заказвалі ваду?**

Мал. З. ЗЯМЕЦКАГА.

(Часопіс «Польское обозрение»).

## ФРАЗЫ

**Рускі пісьменнік Ц. Меламед выдаў у Рызе зборнік афарызмаў і гумарэсак «Спрасаваныя радкі» (1970 г.). У перакладзе на эстонскую мову ён выйшаў і ў Таліне. Аўтар — сталы чытач газеты «Літаратура і мастацтва» — прапанаваў нам некалькі сваіх знаходак у жанры мініжартаў. Знаёмцеся...**

☐ *Добра смяецца той, каго не казычуць.*

☐ *Бывае, прыхільнік старой моды з'яўляецца вестуном новай.*

☐ *Футбольны трэнер выхваляўся: «Выхавай адзінаццаць ігракоў у Спортлато».*

☐ *Часцей за ўсё шкадуюць мінулае тыя, хто не мае будучыні.*

☐ *Ёсць чытачы, якія так вырaслі, што ім цяжка прайсці ў дзверы кнігарні.*

☐ *Калі плошчы часу грошам, не чакай ад яго залатоўкі.*

☐ *Пачуццё гумару нельга захаваць, калі яго не выкарыстоўваць.*

☐ *Самымі вялікімі стратамі ў спектаклі былі рэжысёрскія знаходкі.*

☐ *Калі стаў мужам, высветлілася, што не меў мужнасці.*

☐ *Плюс — гэта ж перакрэслены мінус.*

**По тэхнічных умовах унутраныя восем старонак газеты друкуюцца і выпускаюцца асобна ад васьмі знешніх. Атрымаўшы або набыўшы газету, укладзіце ўнутраныя аркушы ў знешнія.**


«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах на шаснаццаці старонках.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

 Індэкс 63856 АТ 07070



Адрас рэдакцыі: 220600, ГСП. Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара—33-25-25, адказнага сакратара—33-44-04, аддзела літаратуры — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі — 33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-21-53, аддзела культуры — 33-24-62, выдавецтва —32-22-19, бухгалтэрыі — 32-15-87.


Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.


Галоўны рэдактар Х. Д. ЖЫЧКА.

Рэдакцыйная калегія: З. І. АЗГУР, А. Ц. БАЖКО (намеснік галоўнага рэдактара), Б. І. БУР'ЯН, А. І. БУТАКОЎ, А. С. ГРАЧАНІКАЎ, Ю. П. ГРЫГОР'ЕЎ, К. Л. ГУБАРЭВІЧ, І. М. ДАБРАЛЮБАЎ, В. У. ІВАШЫН, А. С. КАЗЛОЎСКІ, П. М. МАКАЛЬ, У. Л. МЕХАЎ (адказны сакратар), Л. Я. ПРОКША, Р. К. САБАЛЕНКА, І. А. САНКОВА, М. Г. ТКАЧОЎ, Ю. М. ЧУРКО, Р. Р. ШЫРМА.